ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 4 (2635) • Пятніца, 26 студзеня 1973 года • Цана 8 кап.



Група ўдзельнікаў IX з'езда мастакоў Беларусі — народныя мастакі БССР М. Савіцкі, А. Бембель, В. Цвірко, мастак шклозавода «Нёман» С. Раўдвеэ, сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Б. Неменскі.

Фота Ул. КРУКА.

## IX З'ЕЗДУ МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

Дарагія таварышы!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі горача вітае IX з'езд мастакоў БССР і жадае ўсім майстрам выяўленчага мастацтва рэспублікі невычарпальнай энергіі, вялікага натхнення і новых творчых дасягненняў.

Выяўленчае мастацтва, з'яўляючыся адным з важных сродкаў ідэйна-мастацкага выхавання працоўных, усё шырэй ахоплівае сваім уплывам розныя бакі нашай рэчаіснасці, усталёўвае духоўныя каштоўнасці сацыялізму, раскрывае высакароднасць душы і імкненняў савецкага чалавека, натхняе яго на новыя подзвігі ў камуністычным будаўніцтве.

Побач з далейшым развіццём у рэспубліцы станковых відаў жывапісу, скульптуры, графікі апошнія гады адзначаны прыкметнымі поспехамі манументальнага мастацтва, у творах якога ўвекавечваюцца самыя значныя з'явы і падзеі гісторыі, імёны выдатных грамадскіх і палітычных дзеячоў, герояў барацьбы за гонар і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы, за стварэнне матэрыяльных і духоўных перадумоў для поўнай перамогі камунізму. Шырокае развіццё атрымліваюць мастацкае канструяванне, дэкаратыўнае і прыкладное мастацтва, якія робяць істотны ўплыў на ўдасканаленне эстэтыкі прамысловай прадукцыі і акружаючай нас абстаноўкі, надаюць высакароднасць працы і быту савецкага чалавека.

Гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС, даклад Л. І. Брэжнева на сумесным урачыстым пасяджэнні ЦК КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР 21 снежня 1972 года вызначылі дакладную праграму далейшага развіцця сацыялістычнай эканомікі, навукі і культуры. Новыя буйныя задачы паўстаюць перад выяўленчым мастацтвам, вырашэнне якіх патрабуе ад мастака нястомных творчых пошукаў, вялікай і мэтанакіраванай работы.

Майстры выяўленчага мастацтва Беларусі заклікаты ярка адлюстроўваць гераічную працу і духоўнае багацце нашага сучасніка, усёй сваёй творчасцю ўсталёўваць ідэі марксізму-ленінізму, мацаваць брацкую згуртаванасць і дружбу савецкіх народаў, славіць веліч іх здзяйсненняў і подзвігаў у імя савецкай сацыялістычнай Радзімы.

Саюз мастакоў БССР заклікаты выхоўваць у майстроў выяўленчага мастацтва камуністычную перакананасць, пачуццё высокай мастацкай патрабавальнасці і грамадзянскай адказнасці за сваю творчасць перад народам, грунтоўна аналізаваць творчыя працэсы, актыўна падтрымліваць усё перадавое і таленавітае. У поўнай меры адпавядаць ідэйна-эстэтычным запатрабаванням савецкага чалавека могуць толькі глыбокія па зместу, дасканалыя па майстэрству, разнастайныя па форме рэалістычныя творы, якія канцэнтруюць увагу на важнейшых праблемах жыцця нашага народа.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі жадае IX з'езду мастакоў рэспублікі паспяховай работы і выказвае ўпэўненасць у тым, што мастакі рэспублікі, добра ўсведамляючы веліч задач, якія стаяць перад імі, будуць нястомна памнажаць свае творчыя намаганні па стварэнню паўнацэннага мастацкага летапісу нашага часу, маштабных твораў, якія раскрывалі б багатае ідэйнае і маральнае аблічча савецкага чалавека, сілу і прыгажосць яго характару, натхнялі б наш народ на новыя подзвігі ў імя камунізму.

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ
КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.

## ВЯЛІКІЯ ГАСТРОЛІ

Дзесяткі ансамбляў, хораў, аркестраў, эстрадных груп і іншых творчых калектываў, шмат вакалістаў і інструменталістаў выступяць у першым паўгоддзі 1973 года ў канцэртных залах рэспублікі. Міністэрства культуры БССР зацвердзіла план гастроляў, у якім прадстаўлены розныя жанры мастацтва.

Чакаецца прыезд у рэспубліку на творчыя вечары народнага артыста СССР кампазітара В. Салаўёва-Сядога з групай выканаўцаў яго твораў. Са сваімі новымі праграмамі гледачоў пазнаёмяць Дзяржаўны канцэртны ансамбль СССР «Класічны балет», Разанскі рускі народны хор, заслужаны ансамбль песні і танца Армянскай ССР, ансамблі «Жок», «Кантэле» і «Трэмбіта», Кіславодскі сімфанічны аркестр, Дзяржаўны аркестр народных інструментаў імя Осіпава і некаторыя іншыя калектывы.

У доўгім пераліку гастралёраў стаяць вядомыя імёны. Пройдуць, напрыклад, канцэрты В. Малініна, Б. Гальдштэйна, А. Абразцовай, Ю. Гуляева, Б. Рудэнка, Б. Штокалава, Э. Вірсаладзе. Перад аматарамі мастацтваў выступяць квартэты, эстрадныя групы, фартэпіянныя дуэты і трыо, інструментальныя ансамблі. З асобнымі з іх сустрэчы адбудуцца ўпершыню.

План гастроляў уключае і выступленні зарубежных калектываў і асобных выканаўцаў. Свае майстэрства ў Беларусі прадэманструюць артысты ГДР, Чэхаславакіі, Польшчы, Балгарыі, Мексікі, Нарвегіі, Японіі, Італіі, ЗША, Францыі, Філіпін, Іспаніі і іншых краін. «Вам усміхаюцца зоркі» — так будзе называцца адна з міжнародных праграм з удзелам майстроў мастацтваў шэрагу дзяржаў.

На гастролі ў Расійскую Федэрацыю, Малдавію, Літву, Латвію, Арменію, Казахстан і іншыя рэспублікі нашай краіны выедуць вядучыя мастацкія калектывы і асобныя эстрадныя групы і ансамблі Беларусі. Цяпер яны рыхтуюць новы рэпертуар.

**БЕЛТА.**

## І ДОБРЫ ГУСТ...

Цікавую выстаўку прыслалі ў сталіцу майстры-мастакі і вучні Бабруйскага мастацкага вытворча-тэхнічнага вучылішча № 15. Выстаўка прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння вялікіх беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. На ёй прадстаўлена каля 40 твораў чаканкі, керамікі, разьбы па дрэве, інкрустацыі, інтарсіі. Работы, выкананыя ў гэтай складанай тэхніцы, даюць магчымасць меркаваць аб стылістычнай разнастайнасці і пошуках новых выяўленчых сродкаў.

Творы педагогаў Т. Краўчука («Сымон-музыка», «Дзед Талаш»), Ул. Аўсюка («Калыханка», «Карагод», «Бандароўна», «Я — мужык-беларус»), А. Ананіча («Песня) і вучняў С. Лавушкіна («Званар»), Ул. Татарчыкава («Сымон-музыка») нібы сабраны не з сотняў падабраных адзін да аднаго кавалкаў дрэва розных парод, а напісаны пэндзлем — такая маляўнічая і багатая іх палітра.

Розныя па пластычнаму вырашэнню, сабраныя разам, работы дапаўняюць адна адну. Яны вызначаюцца імкненнем аўтараў паглыбіцца ў паэтычны свет Купалы і Коласа.

Натхнёныя і рамантычныя вобразы песняроў Беларусі выканаў інкрустацыяй з каляровай саломкі майстар вытворчага навучання Н. Шкун.

Вельмі арыгінальныя работы разьбяроў па дрэве майстроў-мастакоў А. Краўцова і А. Окуня. Гэта дэкаратыўная манументальная ваза «Купалінка» — амаль двухметровая кампазіцыя, выразаная на ствале ліпы неглыбокім рэльефам.

Добрым густам, жывым народным гумарам вызначаецца і, аб'ёмная кампазіцыя «Дзіва» па казцы Якуба Коласа, выкананая тым жа калектывам.

Кераміка і чаканка на выстаўцы прадстаўлены некалькімі творамі. Святочна і ўрачыста прагучаў набор юбілейных керамічных кубкаў з непаліванай гліны (майстар-кераміст А. Концуб) і дэкаратыўнае чаканнае пано «Папараць—кветка».

Спробай паглыбіцца ў псіхалогію купалаўскай «Бандароўны» вызначаецца чаканка С. Лавушкіна.

Большасць работ выстаўкі гаворыць нам не толькі аб выхаванні ў вучняў Бабруйскага мастацкага вучылішча высокіх прафесійна-тэхнічных навыкаў, але і добрага густу. І таму не дзіўна, што вось ужо каторы год Бабруйскае вучылішча № 15 прымае ўдзел у экспазіцыі ВДНГ СССР. Цяпер там знаходзіцца, напрыклад, персанальная выстаўка майстра вытворчага навучання разбяра Аляксея Міхайлавіча Краўцова. Работы навучэнцаў вучылішча экспанаваліся на выстаўках у Канадзе. Фінляндыі, Югаславіі, Чэхаславакіі.

Хацелася б, каб мінчане маглі пазнаёміцца не толькі з інтарсіяй, керамікай, разьбой па дрэве, чаканкай, але і работамі майстроў іншых профіляў — размалёўшчыкаў цацак, сталяроў, дэкаратараў, мэбельшчыкоў, якімі славіцца Бабруйскае вучылішча.

**Б. ЛОБАН.**

## НА ЎСПАМІН ПРА БРЭСТ

У музеі мемарыяльнага комплексу Брэсцкай крэпасці-героя пабывала ўжо 6 мільёнаў чалавек.

6-мільённым наведвальнікам аказаўся шафёр саўгаса «Пажгінскі» з Комі АССР Уладзімір Ільчукоў, які прыехаў у Брэст з турысцкім поездам. На памяць аб гэтай падзеі яму ўручаны падарункі—альбом крэпасці з аўтографамі супрацоўнікаў музея, буклеты. сувенірны медаль і шкатулка работы ўмельцаў.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці музычнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяціголдзем з дня нараджэння народны артыст Беларускай ССР Астрамецкі Абрам Абрамавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## АБ'ЯДНАННЕ ЗАВЕЦЦА «ЯСЕЛЬДА»

Бяжыць ля Іванава невялічкая рачулка з паэтычнай назвай Ясельда. Так рашылі назваць літаб'яднанне, арганізаванае ў гэтым месяцы пры Іванаўскай раённай газеце «Чырвоная звязда». Першымі членамі яго сталі свінарка Г. Кулік, лінатыпістка Л. Місюк, работнік сельскага Дома культуры В. Брыль і іншыя.

Усяго на Брэстчыне працуе больш дзесяці літаб'яднанняў. Найбольш актыўныя з іх—Пінскае, Брэсцкае, Бярозаўскае, Камянецкае, Ганцавіцкае, Баранавіцкае.

Некаторыя былыя выхаванцы гэтых літаб'яднанняў выдалі ўжо свае кніжкі. У канцы мінулага года выйшла першая кніжка члена літаб'яднання «Заранка» (працуе пры Брэсцкай абласной газеце) інжынера Брэсцкага завода газавай апаратуры І. Арабейкі. Яна называецца «Услед за сонцам».

# IX З'ЕЗД МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

У Мінску 22—23 студзеня праходзіў IX з'езд мастакоў Беларусі. У Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы сабраліся майстры выяўленчага і прыкладнога мастацтва, прадстаўнікі іншых творчых саюзаў рэспублікі, госці з Масквы і брацкіх рэспублік.

Кароткім уступным словам з'езд адкрыў старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. А. Грамыка.

IX з'езд мастакоў Беларусі пачаў сваю работу ў знамянальныя дні, калі савецкія людзі ўступілі ў другое пяцідзесяцігоддзе брацкага саюза сацыялістычных рэспублік, у трэці, рашаючы год дзевятай пяцігодкі. З часу папярэдняга з'езда мінула 5 гадоў. За гэты перыяд мастакі рэспублікі стварылі нямала яркіх твораў, якія адлюстроўваюць веліч нашай эпохі, гераічныя будні нашага народа, ўваскрашаюць слаўныя подзвігі савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны.

У прэзідыум з'езда выбіраюцца таварышы П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Б. Н. Неменскі, дырэктар Мастацкага фонду СССР В. М. Антонаў, прадстаўнікі саюзаў мастакоў брацкіх рэспублік: РСФСР — С. І. Іваноў, Украіны — Э. П. Міська, Літвы — Э. І. Жаўберыс, Латвіі — А. М. Гулбіс, Эстоніі — Э. І. Пылдрас, Малдавіі — С. К. Кучук, Азербайджана — Э. М. Гусейнаў, Кіргізіі — К. Керымбекаў, старшы рэферэнт праўлення Саюза мастакоў СССР О. І. Пархайла, член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў СССР Н. І. Кальчыцкі, народныя мастакі БССР З. І. Азгур, А. А. Анікейчык, А. А. Бембель, Я. А. Зайцаў, А. П. Марыкс, Я. Д. Нікалаеў, М. А. Савіцкі, В. К. Цвірко, Я. Г. Чамадураў, старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР народны паэт БССР Я. І. Скурко (Максім Танк), міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч і іншыя.

З вялікім уздымам выбіраецца ганаровы прэзідыум з'езда ў саставе Палітбюро ЦК КПСС.

Выбіраюцца рабочыя органы з'езда. Зацвярджаецца наступны парадак дня:

1. Справаздачны даклад праўлення Саюза мастакоў БССР.
2. Справаздачны даклад рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў БССР.
3. Выбары праўлення і рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў БССР.
4. Выбары дэлегатаў на IV з'езд мастакоў СССР.

Бурнымі апладысментамі ўдзельнікі з'езда сустрэлі прывітанне Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі IX з'езду мастакоў БССР, якое зачытаў сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін.

З дакладамі на з'ездзе выступілі старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР В. А. Грамыка і старшыня рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў БССР С. Д. Лі.

Пасля дакладаў пачаліся спрэчкі. Удзельнікі з'езда абмяркоўвалі важнейшыя праблемы развіцця сучаснага мастацтва. У спрэчках па справаздачных дакладах праўлення Саюза мастакоў БССР і рэвізійнай камісіі выступіла больш за 30 чалавек. Мастакі, скульптары, мастацтвазнаўцы глыбока і ўсебакова прааналізавалі работу свайго саюза, выявілі недахопы, намецілі шляхі іх ліквідацыі.

Удзельнікаў IX з'езда мастакоў БССР горача віталі і пажадалі ім вялікіх поспехаў сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР Б. М. Неменскі, прадстаўнікі саюзаў мастакоў брацкіх рэспублік: РСФСР — С. І. Іваноў, Украіны — Э. П. Міська, Літвы — Э. І. Жаўберыс, Латвіі — А. М. Гулбіс, Эстоніі — Э. І. Пылдрас, Малдавіі — С. К. Кучук, Азербайджана — Э. М. Гусейнаў, Кіргізіі — К. Керымбекаў.

З'езд выбраў праўленне Саюза мастакоў БССР, рэвізійную камісію, дэлегатаў на IV з'езд мастакоў СССР.

З'езд прыняў рэзалюцыю па абмеркаваных дакладах.

Удзельнікі з'езда з вялікім уздымам прынялі прывітальнае пісьмо ЦК КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР, Савету Міністраў СССР.

У рабоце з'езда прынялі ўдзел кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі П. М. Машэраў, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў.

**БЕЛТА.**

●

У склад новага праўлення Саюза мастакоў Беларусі ўвайшлі:

А. Аладава, Б. Аракчэеў, У. Басалыга, М. Бяляеў, П. Белавусаў, У. Бойка, Г. Вашчанка, В. Вярсоцкі, В. Гаўрылаў, Б. Герлаван, І. Глебаў, В. Грамыка, Л. Гуміляўскі, М. Гуціеў, П. Данелія, М. Данцыг, Л. Дробаў, Б. Забораў, І. Карасёў, С. Каткоў, Я. Красоўскі, А. Кашкурэвіч, Б. Крэпак, А. Казлоўскі, П. Крахалёў, А. Лось, А. Малішэўскі, П. Масленікаў, Г. Мурамцаў, Я. Пакаташкін, Г. Паплаўскі, А. Паслядовіч, Д. Папоў, В. Пратасеня, Т. Паражняк, М. Пушкоў, І. Рэй, М. Савіцкі, А. Семілетаў, А. Салаўёў, У. Стэльмашонак, А. Сурскі, В. Філімонаў, І. Фяцісаў, В. Цвірко, Я. Чамадураў, А. Шыбнёў, В. Шпартаў, Г. Шутаў, Л. Шчэмелеў.

У склад рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў БССР выбраны:

С. Абрамаў, Л. Асецкі, Н. Воранаў, А. Грыгар'янц, Т. Ігнаценка, Р. Кудрэвіч, С. Лі, Я. Нікалаеў, А. Осіпаў, І. Паншына, М. Плужнік, В. Палійчук, І. Стасевіч, І. Ціханаў, В. Шаранговіч, В. Шыкін.

●

Адбыўся арганізацыйны пленум праўлення. Старшынёй праўлення Саюза мастакоў Беларусі выбраны В. Пратасеня, адказным сакратаром— Ул. Бойка.

Старшынёй рэвізійнай камісіі Саюза мастакоў Беларусі выбраны В. Шаранговіч.

●

Сёння ў нашай газеце друкуецца даклад В. Грамыкі. Падрабязная справаздача аб спрэчках па дакладу будзе змешчана ў адным з бліжэйшых нумароў.



**ЯК ТАМ, ДЗЯЎЧАТКІ!..** (Экзамены ў выпускнікоў акцёрскага факультэта Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Курс народнай артысткі РСФСР В. П. Рэдліх).

Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.



Прэзідыум IX з'езда мастакоў Беларусі. Са справаздачным дакладам выступае В. Грамыка.

# ВЫСОКАМУ ЧАСУ — ВЫСОКАЕ МАСТАЦТВА

## ДАКЛАД СТАРШЫНІ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ В. ГРАМЫКІ

МАСТАКІ савецкай Беларусі сабраліся на свой IX з'езд. Гэта — агляд нашых сіл і магчымасцяў, дасягнутых рубяжоў і задач, якія трэба вырашыць.

Ад імя з'езда, ад імя мастакоў Беларусі дазвольце выказаць глыбокую ўдзячнасць Цэнтральнаму Камітэту Камуністычнай партыі рэспублікі за ўсебаковую ўвагу, беражлівыя клопаты пра развіццё мастацкай культуры Беларусі, за высокую ацэнку работы мастакоў, выказаную ў прывітанні ЦК КПБ нашаму з'езду.

Мы, мастакі Савецкай Беларусі, ганарымся тым, што з'яўляемся памочнікамі партыі ў вялікай і высакароднай справе камуністычнага выхавання працоўных. Мы ганарымся тым, што наша выяўленчае мастацтва заўсёды жыло імкненнямі народа, дзяліла з ім цяжкасці і надзеі, прайшло з ім гераічны шлях здзяйсненняў, апявала пафас нашага будаўніцтва.

Лепшае са створанага засвойваецца сучаснікамі ў імя будучыні. Перачытваючы Праграму КПСС, важнейшыя партыйныя дакументы, прысвечаныя задачам мастацтва сацыялістычнага рэалізму, мы выразна адчуваем за іх дзелавымі радкамі магутную рэвалюцыйную энергію думкі пакаленняў змагароў, што аддалі сілы і жыццё за вялікія ідэалы. Няма ў свеце справы, якой не крануўся б ленінскі геній. Няма здзяйснення ў нашым грамадстве, якое не было б прадвызначана ленінізмам. Будуючы жыццё па ленінскіх запаветах, ідучы да светлай будучыні па ленінскаму шляху, мы, мастакі Беларусі, запэўняем Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі, што прыкладзём усе сілы, каб з гонарам выканаць пастаўленыя перад намі высакародныя, маштабныя задачы. Мы гаворым: няма большага шчасця для савецкага мастака, чым шчасце быць салдатам, байцом на пярэднім краі бітвы за камуністычныя ідэалы.

МЫ ЖЫВЁМ у эпоху асабліва вострага сутыкнення сіл прагрэсу і рэакцыі. Барацьба ідэалогій — сацыялістычнай і буржуазнай — набыла на сучасным этапе сусветнага грамадскага развіцця асаблівую вастрыню. Гэта патрабуе мабілізацыі нашых сіл і ў галіне выяўленчага мастацтва. Мастакі і мастацтвазнаўцы нашай рэспублікі ў сваёй рабоце зыходзяць з таго, што, як указваў таварыш Л. І. Брэжнеў, «у барацьбе паміж буржуазнымі і сацыялістычнымі ідэямі няма месца нейтралізму і кампрамісам. Для нас свяшчэнны ленінскі запавет, што не можа быць уступак «у тэорыі, у праграме, у сцягу». І, як адзначае таварыш Брэжнеў у другім дакуменце, «трэба быць гатовымі да таго, што гэтая барацьба будзе ўзмацняцца, станавіцца ўсё больш вострай формай супрацьборства дзвюх сацыяльных сістэм».

У наш век, век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, стварэнне каналаў масавай інфармацыі прывяло да з'яўлення прынцыпова новых функцыянальных сувязей паміж мастаком і гледачом, кампазітарам і слухачом, пісьменнікам і чытачом. Ва ўмовах практыкі вокамгненнага данясення мастацкага вобраза (і шырэй — кожнай праявы чалавечай думкі) да масавай аўдыторыі роля кожнага нюанса ў ідэалагічнай прапагандзе, кожнай з'явы ў мастацтве надзвычай узрасла. Нашы ворагі выдатна разумеюць гэта. У антыкамуністычнай, антысавецкай прапаганды на Захадзе ўжо ёсць такія рабочыя тэрміны, як «масіраванае ўздзеянне на грамадскую думку», і яны досыць актыўна карыстаюцца ім.

Інтэнсіўнае абвастрэнне ідэалагічнай барацьбы патрабуе асаблівай актыўнасці, асаблівай пільнасці ад усіх работнікаў нашага ідэалагічнага фронту, у тым ліку і ад мастакоў. У. І. Ленін указваў, што ў працэсе будаўніцтва бяскласавага грамадства, будаўніцтва новай, сацыялістычнай культуры нам давядзецца пераадолець супраціўленне капіталістаў «не толькі ваеннае і палітычнае, але і ідэйнае, самае глыбокае і самае магутнае».

Адказнасць, глыбокая і ўзрошчая адказнасць за сваю творчасць — вось як можна вызначыць пачуццё, якое сёння мы адчуваем. Кожны з нас, мастакоў, заўсёды памятае пра гэтую адказнасць перад народам.

Ці ўвасабляюць твае творы тыя ідэалы, якія асвятляюць нашаму народу шлях у камуністычнае заўтра? Ці дастаткова значны і пранікнёны роздум пра жыццё занатаваны ў іх? Гэтыя пытанні не могуць не ўзнікаць перад мастаком. Адказ на іх непазбежна прыводзіць да ключавой для мастацкай творчасці праблемы — ступені спасцігнення характару народнага і яго выяўлення сродкамі мастацтва. Жыццё патрабуе ад мастака глыбокай камуністычнай перакананасці, праўдзівасці ідэй, якія ён абвяшчае, вялікага запасу маральных сіл.

Найбольш буйныя перамогі нашага мастацтва звязаны з этапнымі падзеямі сцвярджэння сацыялізму, з адлюстраваннем вялікага рэвалюцыйнага працэсу ў лёсах чалавечых. І кожны з лепшых твораў мастацтва народжаны высокаідэйнымі перакананнямі мастака, якія мабілізавалі яго талент, яго думку.

Трэба ясна ўсведамляць, што было да цябе, што адбываецца пры табе, што будзе пасля, каб адлюстраваць думку народа, яго самасвядомасць. Я назваў бы гэта адчуваннем нерву роднай зямлі. Гэта пачуццё, якое прыходзіць разам з глыбокім вывучэннем усёй культуры роднага народа, аднолькава неабходнае і калі перад табою такія эпахальныя падзеі, як Кастрычнік, Вялікая Айчынная, і калі тэмаю твайго мастацтва становіцца дзень сённяшні.

Твор, у якім я, як глядач, не адчуваю каранёў, што глыбока ідуць у жыццё народнае, мне ўяўляецца выпадковым. А выпадковае не пакідае глыбокага следу ў памяці.

Мы бачым, як мяняецца жыццё. Мы бачым бурныя змены ў сферы навукі і тэхнікі, у сферы духоўнай дзейнасці людзей. Мастацтва заклікана вывучаць, ацэньваць, абагульняць гэтыя змены. Таму няспынныя творчыя пошукі ўяўляюцца нам галоўнай задачай мастакоў. Пошукі вядуцца не толькі ў майстэрні. Яны вядуцца ў гушчы жыцця. Адсюль — асаблівы рахунак мастаку. Сёння мастак не можа паспяхова працаваць без глыбокіх і ўсебаковых ведаў, без уліку дасягненняў у кожнай з нацыянальных культур нашай краіны, у мастацтве сацыялістычных краін, ва ўсім прагрэсіўным мастацтве свету.

Гэтыя дасягненні трэба ўмець берагчы, развіваць, але не разбураць. Для ацэнкі дасягненняў у нас ёсць адзіна правільны арыенцір — партыйны, дыялектычны падыход да любога твора, да любой тэмы, як і да любой падзеі жыцця. Час патрабуе, каб мы былі байцамі. У нашых руках моцная зброя — мастацтва. І гэтым падкрэсліваецца наша адказнасць. Партыйнасць і народнасць — невычарпальныя і жыватворныя крыніцы, якія жывяць магутнае дрэва, што вечна развіваецца, — мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Гэтыя краевугольныя катэгорыі марксісцка-ленінскай эстэтычнай думкі даюць вялізную духоўную сілу, творчую энергію мастаку, невымерна пашыраюць яго кругагляд, напаўняюць працу высокім сацыяльным гучаннем. Становячыся перакананнямі мастака, яны абумоўліваюць яснасць мэты яго творчасці, яе сацыяльную, эстэтычную значнасць. Перакананы ў сваёй эстэтычнай праваце, савецкі мастак з вялікай энергіяй, настойлівасцю працуе над увасабленнем задумы, адчуваючы сябе ў атмасферы сапраўднай свабоды.

ЗА СПРАВАЗДАЧНЫ перыяд майстры беларускага выяўленчага мастацтва не аднойчы паспяхова выступалі ў сябе ў рэспубліцы і за яе межамі.

▶

Скарочаная стэнаграма.



У зале з'езда.

Фота Ул. КРУКА.

## IX З'ЕЗД МАСТАКОЎ БЕЛАРУСІ

# ВЫСОКАМУ ЧАСУ — ВЫСОКАЕ МАСТАЦТВА

Гаворачы пра рэспубліканскія і іншыя мастацкія выстаўкі, пра экспазіцыі ў братніх рэспубліках і за мяжой, што адбыліся за справаздачны перыяд, хачу падкрэсліць наш выхад на міжнародную трыбуну. Творы беларускіх майстроў з цікавасцю глядзелі ў Францыі і Англіі, Канадзе і краінах Лацінскай Амерыкі, Егіпце і Японіі. У краінах сацыялістычнага лагера беларускія майстры — частыя госці. З асаблівым поспехам прайшла выстаўка твораў беларускіх мастакоў у Берліне. Тут мы выступалі ў братнім партнёрстве з мастакамі Расійскай Федэрацыі і Малдавіі.

Спецыфічная і вельмі вялікая роля ў ідэйна-эстэтычным уздзеянні на людзей належыць станковай карціне. Як магутны сродак мастацкага пазнання рэчаіснасці і фарміравання асобы, савецкая сюжэтна-тэматычная карціна, дзякуючы выключнаму багаццю і паўнаце ідэйнага зместу жывапісных вобразаў, ярка, выразна раскрывае тое галоўнае, што складае сутнасць нашай барацьбы за камунізм.

Буржуазная эстэтыка, прапагандуючы тэорыі ўсеагульнасці дызайна, станковым мастацтвам адводзіць толькі ролю арганізацыі жыццёвага асяроддзя, Гэтыя канцэпцыі — памылковыя. Натуральна, што іх аргументавана адвяргаюць і мастацтвазнаўства, і сама практыка савецкага мастацтва. Значэнне карціны на грамадска значную тэму на выстаўках апошніх гадоў асабліва ўзрасло. Праблема развіцця станковага мастацтва, яго месца і ролі ў мастацкай культуры вырашаецца развіццём станковых жанраў у краіне (у тым ліку ў нашай рэспубліцы). Станковыя жывапіс, скульптура, графіка на працягу ўсёй гісторыі савецкага грамадства памагалі народу змагацца, будаваць, яны адлюстравалі людзей і іх справы, вялікія падзеі, «якія страсянулі свет», расказалі пра іх усёй планеце, раскрылі і працягваюць раскрываць новыя магчымасці рэалістычнай мастацкай творчасці. Рэзервы рэалістычнага станковага мастацтва, па сутнасці, невычэрпныя.

Станковы жывапіс — своеасаблівая «эмацыянальная гісторыя эпохі». У ёй з вялікай паўнатой адлюстроўваюцца пачуцці людзей нашага часу, іх светапогляд. Станковая карціна — сама сучаснасць. У ёй, у карціне, — новы герой і ўсё жыццё ў яго рэвалюцыйным развіцці. Прыгадайце толькі некаторыя карціны савецкіх жывапісцаў — Пятрова-Водкіна, Дэйнекі, Пластава, Коржава, Майсеенкі, Салахава, Ілтнера, Іванова, Яблонскай, Іягансона, Піменава, Корына, М. Савіцкага, Цвірко, Данцыга, Малішэўскага, Зайцава, Воранава і іншых. У іх — і мінулыя дасягненні, і пошукі новага. Савецкі жывапіс закліканы сёння гаварыць пра сённяшняе жыццё ва ўсіх невымерна багатых яго праявах. Не сузіраць пасіўна гэтае жыццё, а выпрацоўваць актыўную мастакоўскую пазіцыю. Савецкі чалавек валодае такімі новымі якасцямі, пры якіх грамадскія і асабістыя інтарэсы сплаўлены ў адно. Больш патрабавальны стаў і наш глядач. Ён сёння успрымае як анахранізм слепа спісанае з натуры і не пераасэнсаванае мастаком.

У апошнія гады ў станковай карціне (у тым ліку, і ў беларускай) з'явіліся новыя тэмы, больш ёмістыя, чым раней, рашэнні. Пашырылася кола вобразаў. Узбагаціўся арсенал мастацкіх сродкаў.

У параўнанні з 60-мі гадамі, калі вакол станковага жывапісу разгортвалася палеміка, сёння больш выразна вызначаюцца межы станковай карціны і, скажам, манументальнага мастацтва.

У сучасным жывапісе змяніўся і характар пейзажа, нацюрморта, партрэта. З'явіліся карціна-нацюрморт, карціна-інтэр'ер (прыгадайце «Нацюрморт» і «Трывогу» Данцыга). Усё часцей з'яўляецца партрэт-вобраз як складаны псіхалагічны арганізм з глыбокім падтэкстам. З'яўляецца карціна-пейзаж, свабодная ад эцюдзізма, бегласці адлюстравання, выпадковасці (Цвірко, Алейнік і іншыя).

Можна назваць характэрныя рысы станковай карціны на цяперашнім этапе развіцця беларускага жывапісу: цягу да грамадска значнай праблематыкі, якая рашаецца праз актыўна скарыстаныя сімвалічныя, асацыятыўныя, метафарычныя формы.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ





Я. Красоўскі і М. Танк.

●

А. Шыбнёў, Г. Паплаўскі, М. Шыронаў.

●

А. Кроль, І. Ціханаў, Я. Нікалаеў, Г. Чарняўскі, Э. Гусейнаў (Баку), К. Керымбекаў (Кіргізія), П. Крахалёў.

Рэалістычная станковая карціна патрабуе ад мастака ўдумлівасці і пры кампазіцыйным раскрыцці сюжэта, і пры ўзнаўленні атмасферы падзеі, і пры псіхалагічным аналізе характараў персанажаў. Стварэнне такой карціны не мае нічога агульнага з вырабам тых вялізных, пісаных маслам на палатне скараспелак — напаўкарцін, напаўпано, якія прэтэндуюць на дэкаратыўнасць. Падобныя скараспелкі не маюць дачынення ні да станковага, ні да манументальнага жывапісу і, на жаль, усё яшчэ трапляюць часам на выстаўкі. Думаецца, вартыя падтрымкі не тыя творы, у якіх мастак у тысячны раз абмяжоўваецца дэкляраваннем вернасці свайму часу, а тыя, у якіх ён натхнёна і пераканальна выяўляе час і выяўляе моваю, для дадзенай тэмы адзіна магчымай. Не, карціна — не безаблічнае адлюстраванне грамадскіх ідэй, а эмацыянальнае адлюстраванне іх праз прызму розуму і сэрца. Ёсць жа нямала прыкладаў, калі на поспех спрабуе прэтэндаваць уяўны твор, які памірае назаўтра пасля закрыцця выстаўкі. Колькі было такіх на нашай памяці! І мы радуемся, што сёння народ размаўляе з мастаком, як з другам, як з настаўнікам жыцця, абавязаным ісці на крок наперадзе жыцця. І не дэкларацыі патрэбны ў абмене духоўнымі каштоўнасцямі паміж мастаком і гледачом, а шчырая зацікаўленасць у тым, каб паказаць і ўбачыць такія высокія праявы жыцця, якія ўздымуць, прымусяць хваляваццa, задумацца над з'явамі нашай культуры, над жыццём нашых людзей ва ўсіх яго гранях, памогуць зрабіць гэтае жыццё багацей. Толькі глыбокі ўваход у сутнасць духоўнага жыцця людзей прыводзіць да поспеху на цяжкіх шляхах творчых пошукаў. На гэты шлях няма карысці выходзіць на белым кані парадна шумнага твора.

Станковая карціна не кожнаму мастаку па плячы. Магчымы няўдачы, пралікі, памылкі. Асабліва пры павярхоўным падыходзе да тэмы. Пры недастатковай патрабавальнасці аўтара да сябе ўзнікаюць бяскрылыя і безаблічныя натуралістычныя палотны, якія кампраметуюць і важную тэму, і ўвогуле рэалістычны станковы жывапіс.

Згодна легендзе, Андрэй Рублёў, прыступаючы да работы, надзяваў чыстую кашулю, жагнаўся, а тады ўжо браў у рукі пэндзаль. І, мабыць, менш за ўсё меркаваў сваім творам «зрабіць уражанне». Як сказаў адзін вялікі паэт, «мастак павінен глядзець на праявы вачыма сваёй эпохі». Дык дзе ж мера дзёрзкасці, дзе гэтая дзёрзкасць пераходзіць мяжу павагі да мастацтва і да людзей, які ж крытэрый для меркаванняў пра тое, што ствараецца? Мабыць, не на апошнім месцы тут уласнае сумленне творцы, ступень яго грамадзянскай адказнасці перад грамадствам.

Праблем станковага мастацтва нямала. Яны — складаныя. Хіба жывы мастацкі працэс не сведчыць пра ўзаемаўплывы станковага і манументальнага мастацтва, станковага і дэкаратыўнага, станковай карціны і графікі? Хіба не ўплываюць на станковае мастацтва, напрыклад, кінематограф, плакат?

Узаемаўплыў манументальнага мастацтва і станковага, канечне, існуе. Нельга адмаўляць ні сам факт яго, ні адлюстраванне гэтага факта ў творчай практыцы, напрыклад, Савіцкага, Данцыга, Вашчанкі, Стэльмашонка, Кішчанкі, Сямілетава і іншых. Зразумела, тэндэнцыя гэтая ў жывапісе Беларусі — не адзіная. Прыгадаем палотны Кудрэвіч, Малішэўскага, Зайцава, Гугеля, Шчэмелева, Сумарава, Крахалёва і іншых. Мы наўмысна бяром мастакоў розных творчых почыркаў і розных пакаленняў — яны не прыбягаюць у станковых творах да прыёмаў манументальнага мастацтва.

Можна яшчэ гаварыць пра своеасаблівасць метафарычнасці ў сучаснай станковай карціне, дзе па рознаму ўзаемадзейнічаюць усе віды іншасказальнай вобразнасці, г. зн. розныя выяўленчыя сімвалы, параўнанні, алегорыі і г. д. Можна гаварыць пра тэндэнцыю павышанай дэкаратыўнасці ў станковай карціне, калі пераважаюць яркія і чыстыя колеры, гучныя каларыстычныя акорды, арнаментальная ўладкаванасць форм (работы Цвірко, Каткова, Казакевіча, Аракчэева, Алейніка).

Але завастрэнне манументальнасці, дэкаратыўнасці, метафарычнасці можа весці да зусім процілеглых вынікаў. Усё тут залежыць ад ступені мэтазгоднасці іх ужывання, адпаведнасці ўнутранай логіцы задумы. «Карціна, — пісаў Рэпін, — ёсць глыбока складаная рэч і вельмі цяжкая. Толькі напружаннем усіх унутраных сіл у адно пачуццё можна ўспрыняць карціну, і толькі ў такія моманты вы адчуеце, што вышэй за ўсё праўда жыцця, яна заўсёды заключае ў сабе глыбокую ідэю...» Сказанае датычыць усяго станковага жывапісу.

ЛЕНІН І РЭВАЛЮЦЫЯ. Ленін і народ. Вечна неўміручая тэма. Яна ў нашым мастацтве ўсё больш распаўсюджваецца. І тут ёсць у нас свае дасягненні і знаходкі. Прыгадаем шматпланавую па вобразнаму вырашэнню і ўнутранай філасофскай структуры карціну «Аднадушнасць» М. Савіцкага, які, уключыўшы ў вобразную сістэму алегарычныя моманты, унёс у развіццё нашага жывапісу нешта новае. Прыгадаем цыкл літаграфій В. Шаранговіча да паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін» — графік дасягнуў высокай вобразнай сімволікі, сугучнай нашаму часу. Прыгадаем своеасаблівы рэквіем жыццесцвярджэння ў карціне «Клятва» Я. Зайцава. Прыгадаем рамантычнае палатно У. Стэльмашонка «ВХУТЭМАС. 1921 год». Па-рознаму гэта адказная тэма вырашана ў творах «Кастрычніцкія дні» А. Шыбнёва, «Раніца новай Расіі» К. Касмачова, «У. І. Ленін на выпуску першых чырвоных камандзіраў» Ф. Дарашэвіча, «Інтэрнацыянал» Р. Кудрэвіч і А. Гугеля, «25-е, першы дзень» Л. Асядоўскага, у скульптурах З. Азгура і В. Палійчука, плакатах Маліноўскага.

Звяртаючыся да ленінскай тэмы, мастак управе абраць творча блізкую яму сістэму форм, якая вызначаецца відам, жанрам мастацтва, нарэшце, — стылем. Але нельга забываць пры гэтым, што стварэнне вобраза Леніна — вельмі складаная творчая задача, і не кожнаму яна па плячы. Нельга спадзявацца, што тэма «спіша» пралікі. Трэба глыбока ўсвядоміць сэрцам і розумам, ці гатовы ты як чалавек і мастак яе вырашаць. Далейшы поспех у распрацоўцы вобраза Леніна магчымы толькі ў тым выпадку, калі кожны беларускі мастак не будзе аддавацца самазаспакоенасці, калі правільна будуць прааналізаваны і дасягненні, і недахопы ўжо створаных твораў. А недахопы — відаць. Гэта — і штамп, і схематызм.

Цікавасць да тэм гісторыі рэвалюцыі, першых пяцігодак, непарыўна звязаных з «думкамі і справамі» Ільіча, надзвычай узрасла ў беларускім мастацтве. Прыгадаем, напрыклад, карціны «І з'езд РСДРП» М. Манасзона, «Беларусь. За ўладу Саветаў» Н. Воранава, «Добраахвотнікі» М. Савіцкага, «Рудабельская рэспубліка» Р. Кудрэвіч, «Грэнада» Р. Кудрэвіч і А. Гугеля, «Дзяржынскі. Да новага жыцця» А. Малішэўскага, «Народныя камісары Беларусі» У. Стэльмашонка, скульптурныя кампазіцыі «Рабфак» Л. Зільберта, «1919 год» В. Андрушчанкі, графічныя лісты «Інтэрнацыянал» І. Капляна, акварэльную серыю «Дзеці 20-х гадоў» А. Волкава і іншыя.

Думаецца, рост увагі да гэтых тэм тлумачыцца імкненнем глыбока і ўсебакова асэнсаваць гістарычную пераемнасць этапаў развіцця нашага грамадства, усебакова ўсвядоміць сэнс нашай рэвалюцыі і гераічнага шляху народа, які будуе Вялікае Сёння. Канечне, многае ў рашэнні гэтай тэмы не зроблена нашымі майстрамі. Многае яшчэ трэба зрабіць. Мы верым, што гэтая тэма атрымае ў нашым мастацтве і больш моцнае гучанне, і большую пранікнёнасць і маштабнасць.

У АПОШНІЯ ГАДЫ асаблівае значэнне ў выяўленчым мастацтве Беларусі набывае важнейшы аспект складанай, цікавай, шматграннай тэмы сучаснасці — жыццё рабочага класа. Вельмі высакародная творчая задача — адлюстраваць працэс духоўнага развіцця сучасніка, фарміраванне новых адносін да працы, да калектыву, да грамадства, узнікненне новых маральных і этычных каштоўнасцей. Творы на тэму працы ў жывапісе, графіцы, скульптуры Беларусі розныя па глыбіні зместу і форме выканання, па колькасці закладзенай у работу інфармацыі. Але ў суме дасягненняў і нявырашаных праблем яны прымушаюць задумацца: якая ж унутраная сутнасць тэмы, якія падыходы да тэмы, метады яе рашэння найбольш правільныя? Дастаткова прывесці наз-

# ВЫСОКАМУ ЧАСУ — ВЫСОКАЕ МАСТАЦТВА

Для нашай графікі характэрнае багацце тэматычных цыклаў, серый, якое тлумачыцца жаданнем мастакоў паглыбляць тэму, раскрываць яе больш поўна, шматзначна. Прыгадайце серыі «Партызаны» А. Кашкурэвіча, «Жанчыны Палесся» А. Паслядовіч. «Памяць», «Мой край», «Белы кантынент» Г. Паплаўскага, «Брэсцкая крэпасць-герой» П. Дурчына. «Будні ваенна-марскога флоту» і «Падполле Мінска» Л. Асецкага, «Баладу пра маці» А. Захарава, «Хатынь» Ю. Зайцава, «Трактарабудаўнікі» А. Дэмарына, «Камсамольская ўдарная будоўля» М. Рыжыкава і іншыя. Серыі аб'ядноўваюцца агульнасцю задумы, адзінствам тэмы, якая атрымлівае развіццё ў прасторы або ў часе.

Многія лісты А. Паслядовіч, А. Лось і іншых дазваляюць гаварыць пра асаблівасці нацыянальнай школы нашай станковай графікі. Справа не толькі і не столькі ў звароце да народных сюжэтаў або ў скарыстанні элементаў фальклорнай мовы, а ў глыбокім разуменні асноў народнай творчасці, якое спрыяе стварэнню самабытных твораў.

Характэрнае для мінулых гадоў захапленне лінагравюрай, якое навучыла «мысліць у матэрыяле», падрыхтавала цяперашнюю ўдумлівую работу ў літаграфіі, афорце і іншых відах эстампа. Крыху суровая аднастайнасць чорна-белай лінагравюры змянілася разнастайнасцю танальных і колерных рашэнняў. Графікі-станкавісты выпрацавалі больш аналітычны, больш мяккі і ў той жа час больш сур'ёзны і глыбокі пагляд на свет.

Ёсць нямала і невыразных, пазбаўленых індывідуальнай своеасаблівасці лістоў. Неапраўданая «плакатнасць» дае сябе адчуць, бывае, нават у некаторых удалых у цэлым работах.

Кідаецца ў вочы пэўнае змыканне станковай графікі і ілюстрацыі. Гэта, зразумела, датычыць не ўсёй кніжнай графікі, а таго яе напрамку, які можна вызначыць як «станковую графіку на літаратурныя тэмы». У графічным прачытанні літаратуры нярэдкая арыентацыя не столькі на кнігу, колькі — на выстаўку. Адсюль — і памеры ілюстрацый, і выбар фармату, не звязаны з макетам кнігі, і тэндэнцыя да больш абагуленых вобразаў. Так вырашаны ілюстрацыі Г. Паплаўскага да «Лядовай кнігі» Ю. Смуула, «Новай зямлі» Я. Коласа, В. Шаранговіча да паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін», Б. Заборава да вершаў Я. Купалы, А. Кашкурэвіча да твораў Я. Купалы і г. д. Усе гэтыя ілюстрацыі, не парываючы сувязей з кнігай, адначасова — станковыя выставачныя работы. Гэта лёгка кідаецца ў вочы, як і зусім відавочны высокі ўзровень прафесійнага майстэрства.

Насцярожвае вар'іраванне ўжо вырашаных графікаю праблем, пэўная самазаспакоенасць. Гэта датычыць і вядучых майстроў, і моладзі, схільных часам да адпрацаванай гатовай формулы, замест таго, каб гаварыць пра жыццё сваімі словамі, няхай скупа, няхай на першы пагляд празмерна проста, але незалежна ад ужо сказанага другімі, ад траскучай эфектнасці, танных фраз, банальнасці, замаскіраванай пад навізну. Рашэнні, так сказаць, «другасныя», не дадаюць гонару мастаку.

У цэлым жа графіка дастаткова моцная і важнымі пошукамі, і вынікамі, у якіх — зарука далейшых яе поспехаў.

Радуе, што ў рэспубліцы назіраецца бурнае развіццё акварэлі. Гэты від мастацтва, усім зместам звернуты да сучаснасці, адкінуў стары пагляд на акварэль як на мастацтва камернае. У акварэлі створаны нават шматфігурныя тэматычныя кампазіцыі, жанравыя сцэны, кампавіцыйныя партрэты, пейзажы-карціны. Прыгадаем лепшыя акварэлі В. Цвірко, Л. Лейтмана, Г. Вашчанкі, Г. Шутава, Ф. Гумена, А. Паслядовіч, У. Стэльмашонка, Я. Красоўскага, Р. Кудрэвіч і іншых. Складваецца новае разуменне акварэлі. Нарадзіліся новыя індывідуальнасці акварэлістаў у розных гарадах рэспублікі.

Няма пакуль што ў рэспубліцы ўсталяванай школы плаката. Асобныя ўдачы плакатыстаў — рэдкія. Назіраецца пэўны рост якасці палітычнага плаката. Але вельмі многа яшчэ трэба зрабіць, каб плакат сыграў сваю ролю ў ідэйна-эстэтычным выхаванні. Зашмат плакатаў — банальных, бедных па мастацкай канцэпцыі, пазбаўленых вострых, нечаканых супастаўленняў. Сучаснасць патрабуе ад плакатыстаў актывізацыі вобразнай структуры іх твораў, узбагачэння іх інтэлектуальнай ёмістасці на аснове выразнай сэнсавай мэтанакіраванасці мастацкіх сродкаў.

Сёння небывала квітнее прыкладное мастацтва. Мастацкая творчасць пранікае ў быт, на вытворчасць, ва ўсе сферы дзейнасці людзей. У Праграме КПСС сказана, што па меры прасоўвання да камунізму мастацкі пачатак зробіць яшчэ больш адухоўленай працу, упрыгожыць быт і больш высакародным зробіць чалавека.

У рэспубліцы вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва выпускаюць больш 150 прадпрыемстваў — ільнокамбінаты, дывановыя фабрыкі, шклозаводы, фарфоравы завод, фабрыкі мясцовай прамысловасці. Не ўся іх прадукцыя высокай якасці, бо не на ўсіх прадпрыемствах ёсць мастакі-спецыялісты.

Агульнавядомыя поспехі майстроў беларускага шкла. Імёны Мурахвера, Мягковай, Раудвеэ, Ісаевіч, Абрамавай, Дзівінскай і іншых шырока вядомы ў нашай краіне і за яе межамі. На жаль, гэтага нельга пакуль што сказаць пра кераміку і іншыя віды прыкладной творчасці.

Многія з мастакоў, якія канчаюць наш тэатральна-мастацкі інстытут па профілю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ідуць у іншыя сістэмы, часцей за ўсё — з-за адсутнасці неабходных умоў для работы на прадпрыемствах. Дагэтуль у нас не ўведзена палажэнне аб правах і абавязках мастакоў прамысловасці, не ўзаконены нормы тыражыравання аўтарскіх узораў, выпуску твораў для экспанавання на выстаўках.

Навукова-тэхнічны прагрэс паспрыяў з'яўленню новых форм мастацкай дзейнасці — мастацкаму канструяванню прамысловых вырабаў, прылад працы, мастацкаму праектаванню вытворчага і культурна-бытавога асяроддзя прамысловай графікі.

Стварэнне ў Мінску Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута тэхнічнай эстэтыкі, а ў тэатральна-мастацкім інстытуце — кафедры прамысловага мастацтва, укамплектаванне мастацка-канструктарскіх груп на прадпрыемствах — важныя фактары мастацкага развіцця рэспублікі. Беларускія аўтамабілі і станкі, электронна-вылічальная тэхніка, радыё- і фотаапаратура і іншыя віды прадукцыі адзначаны ўсесаюзнымі і міжнароднымі дыпломамі і прызамі не толькі за тэхнічную дасканаласць, але і за эстэтычную вартасць. Аднак трэба адзначыць, што народная гаспадарка рэспублікі мае вострую патрэбу ў кадрах мастакоў-канструктараў. Не ва ўсіх прадпрыемствах і ведамствах, праектных арганізацыях і канструктарскіх бюро ўсвядомілі неабходнасць удзелу ў праектных распрацоўках высокакваліфікаваных спецыялістаў прамысловага мастацтва. Гэта адмоўна адбіваецца на якасці новых узораў прадукцыі. Няразвітасць служб тэхнічнай эстэтыкі і мастацкага канструявання прыводзіць, бывае, да некрытычнага пераймання ўстарэлых замежных узораў.

Інтэнсіўна шукаюць новых сродкаў выразнасці мастакі кіно, тэатра, тэлебачання. Дастаткова прыгадаць такія спектаклі, аформленыя нашымі майстрамі, як «Амністыя», «Трыбунал», «Зацюканы апостал», «Людзі на балоце» і іншыя ў тэатры імя Я. Купалы, «Спартак», «Яўгеній Анегін», «Пасля балю», «Пікавая дама» ў тэатры оперы і балета, «Маскарад», «Фізікі і лірыкі», «Мілы ілгун» і іншыя ў Рускім тэатры імя М. Горкага. «Раскінулася мора шырока» ў Гродзенскім тэатры, «Шостае ліпеня» ў Віцебскім, кінафільмы «Годны да нестраявой», «Масква — Генуя», «Іван Макаравіч», «Я, Францыск Скарына», «Чорнае сонца», «Паланез Агінскага», тэлевізійныя пастаноўкі «Змова імператрыцы», «Уся каралеўская раць» і іншыя. Мастацкае афармленне спектакляў і кінафільмаў Я. Чамадуравым, А. Грыгар'янцам, В. Галубовічам, Я. Ганкіным, В. Кубаравым, Б. Герлаванам, Я. Нікалаевым, М. Апіокам і іншымі — высокае па майстэрству, багатае на творчую фантазію і арыгінальныя рашэнні. Пажадаем гэтаму нашаму творчаму атраду быць бліжэй да творчага жыцця Саюза мастакоў БССР. Пажадана правесці канферэнцыю, прысвечаную пытанням творчай узаемасувязі мастака і рэжысёра, мастака і акцёра.

Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» — не толькі важнейшы дакумент, які ставіць перад намі канкрэтныя задачы на сёння, але і праграма, якая выразна вызначае нашу стратэгію ў важнейшай галіне ідэалогіі на многія гады наперад. Яна ўспрынята ў нашым творчым саюзе з вялізным задавальненнем.

Аўтарытэт беларускай мастацтвазнаўчай крытыкі прыкметна ўмацоўваецца сярод чытачоў і мастацкай грамадскасці. Секцыя крытыкі і мастацтвазнаўства зрабіла важныя крокі па паляпшэнні сваёй работы.

Крытыка абавязана глыбока і аб'ектыўна разбірацца ў складаных праявах сучаснага мастацтва, сапраўды навукова аналізаваць заканамернасці сучаснага мастацкага працэсу, выяўляючы ў ім прагрэсіўнае, спрыяльнае для плённага развіцця мастацтва сацыялістычнага рэалізму. Да гэтага заклікае Пастанова ЦК нашай партыі.

Пастаянны клопат аб удасканальванні прафесійнага майстэрства і ўмацаванні прафесійнага аўтарытэту крытыкі, на жаль, не стаў яшчэ нормаю творчага жыцця нашага мастацтвазнаўства. Некваліфікаваныя артыкулы, блытаныя меркаванні, неаргументаваныя ацэнкі твораў у друку і на творчых абмеркаваннях, недастатковы прафесійны ўзровень навуковых работ і цэлага раду выданняў — нецярпімы брак у рабоце беларускай мастацкай крытыкі і мастацтвазнаўства. Яшчэ сустракаюцца факты беспрынцыповасці і непатрабавальнасці асобных крытыкаў як да мастакоў, так і да калег па прафесіі. Неабгрунтаваныя кампліменты і неабгрунтаваныя абвінавачванні сведчаць пра хісткасць крытэрыяў ацэнак некаторых мастацтвазнаўцаў і крытыкаў, пра ненавуковасць і бездаказальнасць, суб'ектыўна-густавыя або проста прыяцельскія сімпатыі і антыпатыі.

Разам з тым трэба адзначыць, што пераадоленню недахопаў нашай мастацкай крытыкі перашкаджае шэраг аб'ектыўных прычын, якія неабходна ліквідаваць агульнымі намаганнямі многіх устаноў і ведамстваў. Адна з вастрэйшых нявырашаных праблем — падрыхтоўка кадраў мастацтвазнаўцаў у рэспубліцы і іх уладкаванне на працу. У большасці ўстаноў і ведамстваў, так або інакш занятых дзейнасцю, трывала звязанай з выяўленчым мастацтвам, няма вопытных кадраў мастацтвазнаўцаў-прафесіяналаў. У рэспубліцы не наладжана прафесійная мастацтвазнаўчая адукацыя. Не арганізавана размеркаванне ў Беларусь выпускнікоў мастацтвазнаўчых навучальных устаноў краіны. Беларускія студэнты і аспіранты па мастацтвазнаўству не пасылаюцца на вучобу за межы рэспублікі.

Нягледзячы на развітую паліграфічную базу, якасць і колькасць кніг па пытаннях мастацтва — яўна недастатковая. Няма перыядычнага выдання па выяўленчаму мастацтву. Складанне і рэалізацыя рэдакцыйных планаў у вядучых выдавецтвах рэспублікі недастаткова арыентавана на актыўнае стымуляванне мастацтвазнаўча-крытычнай дзейнасці. Кепска наладжана выданне аператыўнай мастацтвазнаўчай прадукцыі, каталогаў, даведнікаў, без якіх нельга ўявіць сабе плённую мастацтвазнаўча-крытычную дзейнасць. Недастаткова вядзецца прапаганда дасягненняў мастацтва ў перыядычным друку, па радыё, тэлебачанні, у кіно.

У свой час пленум праўлення Саюза мастакоў выпрацаваў канструктыўныя прапановы, накіраваныя на пераадоленне адставання беларускага мастацтвазнаўства. Частка гэтых прапаноў рэалізуецца. Новаму праўленню Саюза мастакоў трэба замацаваць дасягнутае, дамагчыся новых станоўчых змен у развіцці важнейшай галіны нашай мастацкай культуры — мастацтвазнаўчай крытыкі.

Коратка аб рабоце Мастацкага фонду БССР, мастацкіх саветаў. Дзейнасць праўлення Мастацкага фонду была накіравана на ўмацаванне работы ўсіх звенняў сістэмы для паспяховага рашэння практычных задач, пастаўленых народам, партыяй і ўрадам перад Саюзам мастакоў БССР. У той жа час праўленне фонду не заўсёды дамагалася выканання вырашаных пытанняў, недастаткова аператыўна рэагавала на прамыя ўказанні праўлення Мастацкага фонду СССР аб сур'ёзных недахопах у дзейнасці.

З пытанняў арганізацыйна-творчай работы В. Грамыка закрануў выставачную дзейнасць Саюза мастакоў, некаторыя арганізацыйныя захады, якія маглі б паспрыяць далейшаму ўмацаванню сувязей мастакоў з жыццём народа, работу секцый, камісій па ваенна-шэфскай рабоце, па эстэтычнаму выхаванню школьнікаў, па выяўленчаму самадзейнаму мастацтву, па рабоце з маладымі мастакамі.

— Арганізацыя ўсёй ідэйна-творчай работы ў Саюзе мастакоў БССР, — падкрэсліў дакладчык, — праходзіла пад знакам умацавання патрабавальнасці да ідэйна-мастацкай якасці твораў.

Мастацтва сённяшняга дня надзвычай дынамічнае. Мастацкія ідэі, народжаныя той або іншай нацыянальнай школай, хутка становяцца ўсеагульным здабыткам. У поспеху беларускай нацыянальнай школы віддочна ўвасоблены дасягненні нацыянальных школ братніх рэспублік, і мы заўсёды шчыра радуемся, калі нашы сціплыя дасягненні служаць справе развіцця шматнацыянальнага савецкага мастацтва.

Жыццё патрабуе, каб былі створаны натхнёныя творы аб кіруючай ролі нашай Камуністычнай партыі, каб ажыццяўленне ленінскіх ідэй знайшло ў нашым мастацтве вартае адлюстраванне праз тэму нашай сучаснасці.

Жыццё патрабуе, каб ярка была адлюстравана тэма рабочага класа — вядучай сілы нашага грамадства, каб усе праявы жыцця нашай краіны знайшлі вартае адлюстраванне ў натхнёных творах выяўленчага мастацтва, каб усе творчыя атрады Саюза мастакоў БССР былі магутным рупарам вялікіх ідэй мастацтва сацыялістычнага рэалізму, каб яны актыўна ўносілі свой уклад у скарбніцу нашага шматнацыянальнага мастацтва — цудоўнага рэалістычнага мастацтва Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

У заключэнне свайго даклада В. Грамыка сказаў:

— Ідзе першы год другога пяцідзесяцігоддзя нашага братняга Саюза Сацыялістычных Рэспублік, год новых працоўных здзяйсненняў пяцігодкі, якая так велічна паўстала перад намі ў перспектывах, абрысаваных XXIV з'ездам КПСС.

Ёсць высакароднае нецярпенне ў нашым успрыняцці ідучых дзён: як з усведамленнем багацця ўсяго нашага жыцця прымаюцца весткі аб працоўных справах усенароднага маштабу, так прымаюцца і новыя вялікія справы мастацтва — вялікага зместу выстаўка, фільм, спектакль, сімфонія. Усе мы гэта адчуваем — у сённяшняй грамадскай атмасферы разлітая патрэбнасць у мастацтве высокім. Час цяпер такі — у страі часу і метал індустрыі, і думка навукі, і дасягненні мастацтва. Час такі — ён наскрозь прасякнуты складанымі чалавечымі пачуццямі, якія ствараюць глебу для ўспрыняцця мастацтва небывала багатага і тонкага ў сваёй адрасаванасці чалавеку. Цяпер адказнасць мастака паўстае ў новай якасці — мастак у адказе за маштабнасць творчасці, якая адпавядала б камуністычнаму часу.

З трыбуны XXIV з'езда КПСС у поўную меру справядлівасці прагучала патрабавальнае слова партыі, звернутае да дзеячоў мастацтва: узняць якасны ўзровень мастацкай творчасці.

Ленінскае «трэба марыць» сёння непасрэдна дае заданне руху творчасці. З рашэнняў XXIV з'езда КПСС выразна відаць, наколькі неабходная нам новая, больш высокая якасць кожнага здзяйснення ў сферы матэрыяльнай, у сферы духоўнай вытворчасці. Новая якасць, новая адказнасць за якасць у мастацтве — гэта і азначае буйную хаду таленту.

Сёння ад народа, ад партыі звернута да мастака слова: высокаму часу — высокае мастацтва.

# ГЛЫБОКА ВЫВУЧАЦЬ МАТЭРЫЯЛЫ 50-ГОДДЗЯ САЮЗА ССР

Святкаванне 50-годдзя ўтварэння Саюза ССР з'явілася важнай вяхой у грамадска-палітычным жыцці нашай краіны, падзеяй вялікага міжнароднага значэння. Яно вылілася ў яркую дэманстрацыю трыумфу ідэй марксізму-ленінізму, пралетарскага інтэрнацыяналізму, брацкай дружбы народаў СССР, усё большай згуртаванасці краін сацыялістычнай садружнасці, сусветнага камуністычнага і рабочага руху. Юбілейныя ўрачыстасці з новай сілай паказалі непарушнае адзінства партыі і народа, былі прасякнуты ленінскім духам стварэння, рашучасцю дабіцца новых перамог у ажыццяўленні рашэнняў XXIV з'езда КПСС у камуністычным будаўніцтве. У сувязі з 50-годдзем СССР значна павысіўся ўзровень усёй арганізатарскай і палітычнай работы партыі ў масах, узбагацілася ідэйнае жыццё краіны.

У дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Л. І. Брэжнева «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» усебакова паказана велізарная тэарэтычная, палітычная і арганізатарская работа Камуністычнай партыі па стварэнню і ўмацаванню Савецкага Саюза, пабудове развітага сацыялістычнага грамадства, падведзены вынікі сусветна-гістарычных дасягненняў нашай краіны і вызначаны перспектывы яе далейшага развіцця, раскрыта міжнароднае значэнне вопыту СССР у будаўніцтве сацыялізму і камунізму.

Абавязак партыйных арганізацый—забяспечыць шырокую прапаганду і глыбокае вывучэнне камуністамі, усімі працоўнымі ідэйна-тэарэтычных палажэнняў і палітычных вывадаў, якія змяшчаюцца ў дакументах і матэрыялах сумеснага ўрачыстага пасяджэння Цэнтральнага Камітэта КПСС, Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета РСФСР, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.

Прапаганда і вывучэнне юбілейных дакументаў павінны служыць вырашэнню пастаўленай на снежаньскім Пленуме ЦК КПСС задачы — дабіцца ўдасканальвання ўсёй гаспадарчай работы, істотнага паляпшэння народнагаспадарчага планавання, стылю і метадаў кіраўніцтва эканомікай, далейшага павышэння палітычнай і працоўнай актыўнасці мас у барацьбе за паспяховае выкананне плана трэцяга, рашаючага года пяцігодкі.

Партыйным арганізацыям трэба ўсімі сродкамі арганізатарскай і палітычнай работы садзейнічаць таму, каб барацьба за высокую прадукцыйнасць працы і якасць прадукцыі, эканомію матэрыяльных рэсурсаў і рабочага часу стала справай кожнага савецкага чалавека. Ва ўсенародным сацыялістычным спаборніцтве неабходна ўсталёўваць творчы дух спаборнасці, сапраўднае працоўнае сапернiцтва. Трэба рашуча змагацца супраць чужых сацыялізму перажыткаў — нядобрасумленных адносін да працы, расхлябанасці, недысцыплінаванасці, хцівасці, розных парушэнняў норм сацыялістычнага супольнага жыцця.

КПСС — партыя інтэрнацыяналістаў-ленінцаў, яна заўсёды надавала і надае вялікае значэнне справе выхавання мас у духу сацыялістычнага інтэрнацыяналізму і савецкага патрыятызму. Трэба і надалей настойліва развіваць інтэрнацыяналістычную свядомасць савецкіх людзей, на справе ажыццяўляць паслядоўна класавы, строга навуковы падыход да ацэнкі гісторыі і культуры народаў, выступаць супраць праяўленняў нацыяналізму, рашуча выкрываць падкопы буржуазных ідэолагаў, якія імкнуцца падагрэць звонку нацыяналістычныя перажыткі.

Важнейшае месца ў прапагандзе матэрыялаў урачыстага пасяджэння, прысвечанага 50-годдзю СССР, павінна заняць усебаковае асвятленне дзейнасці Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы па рэалізацыі Праграмы міру, выстаўленай XXIV з'ездам КПСС, раскрыццю рашаючай ролі Савецкага Саюза, яго міжнароднай палітыкі ў гістарычных зменах у свеце.

Глыбокую прапаганду, творчае вывучэнне і шырокае растлумачэнне працоўным даклада «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», звароту Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Савета Міністраў СССР «Да савецкага народа, да працоўных усіх нацыянальнасцей Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» і іншых юбілейных матэрыялаў трэба разглядаць як важнейшую ідэйна-палітычную задачу, як агульнапартыйную справу. У ажыццяўленні гэтай задачы неабходна выкарыстоўваць усе сродкі ідэйна-выхаваўчай работы — прапаганду і агітацыю, друк, тэлебачанне, радыё, літаратуру і мастацтва, культурна-асветныя ўстановы.

Важна правесці гэту работу арганізавана, на высокім ідэйным узроўні, у цеснай сувязі з практыкай, прыцягнуць да яе найбольш кваліфікаваныя кадры. Растлумачэнне матэрыялаў юбілейнага пасяджэння павінна стаць справай першараднай важнасці ўсіх кіруючых кадраў партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый, гаспадарчых органаў, спецыялістаў народнай гаспадаркі, навуковай і творчай інтэлігенцыі.

Неабходна разгарнуць шырокую сетку лекторыяў, кінолекторыяў, цыклаў лекцый і гутарак, праводзіць тэматычныя вечары, вечары пытанняў і адказаў, тэарэтычныя і навукова-практычныя канферэнцыі па актуальных праблемах, выкладзеных у дакладзе таварыша Л. І. Брэжнева. Заслугоўвае адабрэння арганізацыя цыклаў лекцый па актуальных пытаннях нацыянальнай палітыкі КПСС, сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, знешняй і ўнутранай палітыкі партыі.

Вывучэнне матэрыялаў юбілейнага ўрачыстага пасяджэння арганізуецца ва ўсіх звеннях партыйнай і камсамольскай палітычнай вучобы, эканамічнай адукацыі працоўных, у масавых формах прапаганды. Адпаведныя змены і дапаўненні ўносяцца ў навучальныя планы па гісторыі КПСС, навуковаму камунізму, філасофіі, палітычнай эканоміі і іншых грамадска-палітычных дысцыплінах. Ва ўсіх формах палітычнай, эканамічнай, камсамольскай вучобы і масавай прапаганды рэкамендуецца правесці дадатковыя заняткі.

Шырокаму разгортванню работы па вывучэнню матэрыялаў 50-годдзя СССР у сістэме партыйнай і камсамольскай палітычнай вучобы павінна папярэднічаць мэтанакіраваная падрыхтоўка прапагандысцкіх кадраў, узбраенне іх неабходнымі метадычнымі матэрыяламі. З гэтай мэтай на чарговых і спецыяльных семінарах прапагандыстаў важна ўсебакова разгледзець пытанні зместу і методыкі правядзення палітычных заняткаў па рэкамендуемых тэмах, арганізаваць выступленні перад прапагандыстамі кіраўнікоў партыйных, савецкіх і гаспадарчых органаў.

Трэба глыбока прадумаць арганізацыю работы прапагандысцкіх груп, лектараў, дакладчыкаў, палітінфарматараў, агітатараў, узброіць іх неабходнымі матэрыяламі, метадычнымі распрацоўкамі, нагляднымі дапаможнікамі, правесці інструктажы і семінары.

Абавязак рэдакцый цэнтральных і мясцовых газет, часопісаў, выдавецтваў, тэлебачання і радыё — шырока асвятляць тэарэтычныя вывады і практычныя задачы, сфармуляваныя ў дакладзе таварыша Л. І. Брэжнева, пытанні ўнутранай і знешняй палітыкі партыі, усё большую ролю КПСС у будаўніцтве камунізму, вядучую ролю рабочага класа ў сацыялістычным грамадстве, вырашэнне нацыянальнага пытання ў СССР і перспектывы развіцця нацыянальных адносін. Неабходна ўсебакова паказваць барацьбу партыі і народа за павышэнне эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, паляпшэнне капітальнага будаўніцтва, далейшае развіццё сацыялістычнага спаборніцтва, умацаванне працоўнай дысцыпліны і арганізаванасці, удасканальванне планавання і ўсёй сістэмы кіравання, выхаванне грамадскай свядомасці працоўных, усталяванне норм камуністычнай маралі.

Друк, тэлебачанне і радыё заклікаліся шырока і аператыўна інфармаваць працоўных аб практычным ажыццяўленні рашэнняў снежаньскага Пленума ЦК КПСС, самаадданай працы савецкіх людзей па выкананню планаў трэцяга, рашаючага года пяцігодкі.

Вывучэнне юбілейных матэрыялаў павінна быць арганізавана ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, агульнаадукацыйных школах і прафесійна-тэхнічных вучылішчах.

Вялікія і адказныя задачы стаяць перад работнікамі навукі. Увагу вучоных трэба і надалей сканцэнтроўваць на распрацоўцы праблем будаўніцтва камунізму ў нашай краіне, сацыяльна-палітычнага развіцця савецкага грамадства, навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, удасканальвання кіравання эканомікай і павышэння яе эфектыўнасці, далейшага ўмацавання сувязі навукі і вытворчасці.

Творчыя саюзы павінны актыўна падтрымліваць намаганні дзеячоў літаратуры і мастацтва па стварэнню высокамастацкіх твораў, якія адлюстроўвалі б гераічную працу рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі, трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі, велічныя дасягненні краіны ў галіне эканомікі і культуры.

У прапагандзе юбілейных матэрыялаў, як і ва ўсёй ідэйна-выхаваўчай рабоце, Камуністычная партыя апіраецца на творчую ініцыятыву масавых арганізацый працоўных — прафсаюзаў, камсамола, таварыства «Веды», навукова-тэхнічных таварыстваў і іншых арганізацый.

Адзначаючы значэнне ідэйна-палітычнай работы партыі, таварыш Л. І. Брэжнеў падкрэсліў: «Вялікая перавага камунізму і наогул усіх свядомых грамадзян нашага грамадства заключаецца ў тым, што яны добра разумеюць сэнс і напрамак грамадскага развіцця, ясна бачаць мэты, якія паставіла перад сабой наша краіна, і шляхі, якімі мы ідзём. І абавязкам гонару гэтых передавых сіл з'яўляецца зрабіць гэта разуменне, гэту сваю ідэйную перакананасць, высакароднае гарэнне сваіх сэрцаў здабыткам кожнага савецкага чалавека!»

У новым уздыме ідэйна-выхаваўчай работы партыі— зарука паспяховага выканання гістарычных задач, пастаўленых XXIV з'ездам КПСС.

(«Праўда» за 23 студзеня г. г.).

## «МЫ САВЕЦКІЯ»

Так называецца новая работа дакументалістаў Украіны. Фільм дзеліцца на чатыры навелы. У кожнай праз незвычайны лёс чалавека паказаны буйнейшыя падзеі жыцця нашай краіны: I Усесаюзны з'езд Саветаў, будаўніцтва Днепрагэса, стварэнне першых камун і калгасаў, Вялікая Айчынная вайна.

Нядаўна аўтар сцэнарыя і рэжысёр А. Слесарэнка, героі стужкі — сын легендарнага героя грамадзянскай вайны В. І. Чапаева А. Чапаеў, Герой Савецкага Саюза генерал-маёр І. Купін, гвардыі палкоўнік М. Галушка былі гасцямі беларускіх кінематаграфістаў.

У абмеркаванні карціны прынялі ўдзел рэжысёры І. Вейняровіч, Ю. Лысятаў, пісьменнік А. Вялюгін і іншыя. Яны гаварылі аб глыбокім уражанні, якое пакідае навела «Сын Расіі і Украіны сын» — пра двойчы Героя Савецкага Саюза генерал-маёра В. Пятрова. Сапраўды, нельга не схіліць галаву перад мужнасцю і бясконцай сілай духу гэтага чалавека. У першыя гады вайны ён застаўся без абедзвюх рук, быў цяжка паранены ў ногі і галаву, але працягваў ваяваць і дайшоў да Одэра. Пасля вайны Васіль Сцяпанавіч абараніў кандыдацкую дысертацыю, напісаў кнігу ўспамінаў і цяпер працягвае служыць у радах Савецкай Арміі.

А. Вялюгін прапанаваў украінскім сябрам стварыць сумесны фільм пра беларускае і ўкраінскае Палессе.

## НА МАСКОЎСКАЙ СЦЭНЕ

*Сёлета гасцямі беларускай сталіцы былі артысты Маскоўскага драматычнага тэатра з Малой Броннай. У іх афішы значылася і п'еса Андрэя Макаёнка «Трыбунал», якую паставіў галоўны рэжысёр тэатра А. Дунаеў. Ролі Цярэшкі Калабка і яго жонкі Паліны выконвалі вядомыя артысты Л. Дураў і А. Дзмітрыева.*

*Нядаўна беларускіх артыстаў, выканаўцаў галоўных ролей у спектаклі «Трыбунал» у тэатры імя Янкі Купалы—Г. Макарава і Г. Аўсяннікава запрасілі выступіць у аднайменным спектаклі маскоўчаў. Гэта была незабыўная сустрэча. І хоць спектаклі маскоўчаў і мінчан вельмі розныя і давялося «ўваходзіць» у спектакль з адной рэпетыцыі, як кажуць, літаральна на хаду перастройвацца, усё прайшло добра. Гледачы цёпла віталі нашых артыстаў, адарылі іх добрымі словамі і кветкамі. Нягледзячы на тое, што Г. Макарава і Г. Аўсяннікаў выконвалі свае ролі на беларускай мове, масквічы ўсё зразумелі.*

*— Я працую ў цудоўным тэатры,— гаворыць заслужаны артыст БССР Генадзь Аўсяннікаў.—Але як многа значыць для кожнага з нас такая сустрэча. Мне, напрыклад, яна дала зарад на многія месяцы. Думаю, што і маскоўскім артыстам было б цікава сыграць у нашым купалаўскім спектаклі.*



Сустрэліся двое Цярэшак і дзве Паліны. У грыме—Г. Аўсяннікаў і Г. Макарава. У цэнтры—А. Дунаеў.

Фота А. СВЯТЛОВА.

## ЛІТАРАТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

Яўген КАРШУКОЎ

# ВЫБАР

ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ

АПАВЯДАННЕ... Тая ёмістая, хоць і малая форма прозы, з якой звычайна раяць пачынаць сталыя пісьменнікі маладым, той зручны жанр літаратуры, які дае магчымасць аператыўна адгукнуцца на самыя трапяткія, надзённыя праблемы часу, — як ён выконвае сёння сваю адказную місію разведчыка і даследчыка нашай рэчаіснасці, новых пластоў нашага жыцця?

Да крыўднага мала, на жаль, апошнім часам даводзіцца нам сустракаць артыкулаў на гэтую актуальную тэму... «Литературная газета» не выпадкова пачала і вядзе змястоўнае абмеркаванне праблем развіцця сучаснага апавядання, а ў выступленнях пісьменнікаў гучыць пэўная занепакоенасць і заклапочанасць лёсам «малой формы»...

Аднак не будзем палемізаваць з аўтарамі, якія шчыра імкнуцца растлумачыць так званы «спад» у навелістыцы, бо гэта тэма асобнай гаворкі. Спынімся на больш канкрэтным: як пачувала сябе апавяданне на старонках часопіса «Маладосць» у мінулым годзе? Ці заўсёды яно выконвала тыя высокія ідэйна-мастацкія задачы, пра якія яшчэ зусім нядаўна грунтоўна гаварылася ў Пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы»?

Скажам адразу: чыталіся (дакладней — перачытваліся) апавяданні «Маладосці» не заўсёды з душэўнай задаволенасцю... Колькасна як бы ўсё было на сваім месцы: за 1972 год часопіс надрукаваў больш за 20 апавяданняў, навел, абразкоў, мініяцюр... Аднак тая сустрэча з маладым сучаснікам, з сапраўдным героем-стваральнікам, сустрэча, якой, бясспрэчна, прагнуў і чытач, была далёка не такой цікавай, як уяўлялася.

Многія з апавяданняў прысвечаны тэме мінулай вайны (А. Асіпенкі, Б. Сачанкі, М. Даніленкі, П. Кавалёва, П. Місько, Л. Арабей), у аснове іншых ляжаць падзеі, факты, сітуацыі, нярэдка выпадковыя, нязначныя або якія ўжо неаднаразова былі прадметам літаратурнага ўзнаўлення. У тых жа апавяданнях, што прысвечаны расказу аб сучаснай моладзі, не вельмі адчуваеш унутраную далучанасць аўтара да жыццёвых падзей, дастатковае веданне іх, уменне глыбока і праўдзіва падаць не толькі знешнія абставіны, але і ўнутраны свет героя. Больш таго, некаторыя апавяданні пакідаюць супярэчлівае ўражанне, выклікаюць сумненне ў правільнасці тых крытэрыяў, з якімі аўтары падыходзяць да выбару сваіх герояў. Цяжка знайсці сярод іх звычайнага рабочага, калгасніка, камсамольскага важака, жыццём якога б хацелася захапляцца, браць прыклад маладому чытачу.

У гэтай сувязі хочацца прыгадаць словы першага сакратара праўлення СП СССР Георгія Маркава, які ў артыкуле «Адказнасць крытыкі» («Праўда» ад 24 студзеня 1973 года) пісаў: «Літаратура змагалася і змагаецца за душы і сэрцы людзей. І асаблівай, чароўнай сілай уздзеяння на чытача валодаюць тыя кнігі, у якіх адлюстраваны гераічны пачатак у чалавеку, яго гатоўнасць да подзвігу, да самаахвярнасці ў імя камуністычных ідэалаў. Якая прырода **сучаснага** савецкага гераізму, у якіх баках чалавечай дзейнасці ён праяўляецца найбольш акрэслена? Адказу на гэтыя пытанні прагна шукае чытач, і адказваць на іх трэба ўсім нам — пісьменнікам, публіцыстам, работнікам літаратурнага друку».

І тут менавіта не шкодзіць лішні раз з'акцэнтаваць увагу на адным дзіўным моманце ў даследчай дзейнасці некаторых пісьменнікаў. Часам малады літаратар у сваёй творчасці як бы абкрадвае сябе, аддаючы перавагу паказу людзей, якія па той ці іншай прычыне брыдуць крывымі сцяжынкамі. Маўляў, герояў твораў дае само жыццё, і яны таму могуць быць «розныя». Але ж кожнаму зразумела: бяруцца гэтыя героі пісьменнікам **не проста так**, а каб нешта **пэўнае** сказаць чытачу, крануць нейкія важныя струны ў ягонай душы... У гэтым сэнсе прааналізаваць духоўны стан такога героя, зразумець, чаму ён, напрыклад, жыве перш за ўсё для сябе, а не для людзей, для грамадства, паказаць заганнасць яго філасофска-маральных канцэпцый, справа нялёгкая, але пачэсная. Брацца за яе трэба з усёй сур'ёзнасцю і адказнасцю. Магчыма, не ўсім яна і па плячы.

І вельмі шкада, што гэты ж малады пісьменнік, абмяжоўваючы свой творчы пошук, не надае належнай увагі ў творах тым, хто жыве і працуе побач, хто не ўздыхае з нагоды нязДзейсненых мар, а апраўдвае высокае званне грамадзяніна ў паўсядзённай творчай працы.

Але вернемся да апавяданняў «Маладосці». Яны ў некаторым сэнсе служаць ілюстрацыяй да выказаных думак.

У апавяданні «Чаму не прыходзіць сон?» («Маладосць», № 5) Леў Кунько малюе нам вобраз ужо не маладога інжынера Піліпа Макаравіча Вярсоцкага з яго нечаканым жыццёвым канфліктам...

**Усё** ў гэтага чалавека знешне было няблага: яго паважалі ў калектыве, высоўвалі на кіруючыя пасады, нават узнагародзілі, нарэшце, прызначылі кіраўніком канструктарскага бюро буйнага станкабудаўнічага завода... І вось нібы ўсё раптам перакрэслена, і перад намі ўжо зусім іншы чалавек, які згубіў душэўную раўнавагу і якому «ў галаву лезлі **нейкія** недарэчныя думкі, незадаволенасць сабой», «**нейкая** ўнутраная пустата казытала сэрца»... Аўтар і далей расказвае ў такім спачувальным тоне аб перажываннях інжынера, аб яго ўспамінах пра ненапісаную дысертацыю, няўдалае сямейнае жыццё і г. д. Але прапусцім сентыментальныя разважанні адзінокага Піліпа Макаравіча, які адмовіўся пайсці на вяселле да калегі Шыцікава і марнуецца, спрабуючы разабрацца ў сваім настроі, пачуццях. Пяройдзем да больш канкрэтнага, прыадкрыем тое, што схавана за «пакутамі» інжынера. І сам жа факт, і падтэкст апавядання нам гавораць: Вярсоцкі выразна і, магчыма, упершыню адчуў пагрозу свайму камфорту, спакойнаму маленькаму свету мешчаніна і свядома зрабіў подласць (інакш не назавеш яго ўчынак) — забараніў сваім падначаленым, Шыцікаву, займацца ўдасканаленнем электрасхемы станка, аўтарам якой ён з'яўляецца... Сутыкнуліся інтарэсы: з аднаго боку, сумленных працаўнікоў калектыву, з другога — чалавека, які дбае толькі аб уласным дабрабыце... Вось адсюль уся незадаволенасць інжынера. Дрыжыць Вярсоцкі за сваю пасаду, за сваё цёплае месцейка, за свой не такі ўжо аўтарытэтны аўтарытэт. Урэшце рэшт, гэта тып добра замаскіраванага прыстасаванца. І аўтар, захапіўшыся «самааналізам» інжынера, так і не развянчаў яго жыццёвай платформы. Так ці інакш, усе цьмяныя, даволі кволыя намёкі на нейкія змены ў псіхалогіі, зрухі ў душы героя гучаць даволі бездапаможна... Куды мацнейшая і больш пераканаўчая фраза на апошняй старонцы апавядання: «Піліп Макаравіч раззлаваўся на самога сябе: бічаваннем нейкім займаюся, шкадую **аб нечым,** (падкрэслена намі, — **Я. К.**). А Шыцікаў? Можа ён і не зрабіў яшчэ свайго ў жыцці, а з мяне хопіць. Не кожны інжынер можа пахваліцца, каб ягоным імем назвалі ўдасканаленне. А гучыць зусім нядрэнна: «Сістэма Вярсоцкага». Так, так, Вярсоцкага, а не Шыцікава». Пасля гэтых слоў ад уяўнага раскаяння інжынера ўжо нічога не застаецца... І незалежна ад той задачы, якую ставіў перад сабой Л. Кунько, у апавяданні перамагае не Вярсоцкі — сумленны працаўнік, а Вярсоцкі — абывацель са спустошанай, нікчэмнай душой.

Цяжка таксама сказаць, чым кіраваўся Мікола Капыловіч («Маладосць», № 4), прапануючы ў друк сваё апавяданне «Сяргей, сын Антолін». Усё той жа зручнай формулай — так у жыцці бывае? Згодны, бывае. Надараюцца і ў рабочым асяроддзі такія, з дазволу, героі, як Сяргей, — бяздумныя, унутрана спустошаныя маладыя людзі, якія не ведаюць, да якой прыстані прычаліць, хоць нічога і не шукаюць...

Але з першай жа старонкі мы заўважаем: аўтар з цёплай іроніяй, з лёгкай жартаўлівасцю, у якой праглядвае ўсё тое ж спачуванне, расказвае пра ўвогуле як быццам бяскрыўднага хлопца. Хоць ён і не лічыць яго станоўчым, але асабліва і не асуджае. На самай справе, хто такі Сяргей? Рабочы, экскаватаршчык з залатых якуцкіх прыіскаў. Сумленна зарабляе свае «вялікія грошы», шкадуе маці. Едзе ў адпачынак нібыта і з добрай мэтай, мудрым рашэннем: застацца ў родных мясцінах, прыгрэць адзінокую, старую, жаніцца...

Але калі глыбей учытваешся ў апавяданне М. Капыловіча, нечакана для

---

З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ

У апошнія гады ўзмацніліся сувязі беларускіх пісьменнікаў з польскімі літаратарамі. Асабліва плённыя творчыя кантакты з пісьменнікамі Лодзі. Сярод іх такія выдатныя паэты і перакладчыкі беларускай літаратуры, як Я. Гушча, І. Сікірыцкі, Я. Капроўскі і іншыя.

Добра вядома чытачу і імя паэта Мацея Юзафа Канановіча, удзельніка антыгітлераўскага падполля. Яго вершы і апавяданні неаднаразова друкаваліся ў нашых часопісах. Прапануем новыя вершы шчырага сябра нашай зямлі ў перакладзе народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

Мацей Юзаф КАНАНОВІЧ

### НЕ СТАІЦЬ ЛЯ ДЗВЯРЭЙ

*Не стаіць ля дзвярэй,*
*Не чакае са страхам,*
*Няўпэўненая,*
*Не папраўляе валос перад люстрам,*
*Перад тым як узяцца за клямку*
*І адважыцца ў дзверы пастукаць.*
*Любоў не пытае дазволу —*
*Проста з'яўляецца з-за небасхілаў,*
*Ідзе басаножкай нацянькі*
*Праз каменне і цэглу,*
*Пераходзіць агонь і ваду,*
*Праз дзень і ноч,*
*Праз спакой і вайну,*
*Праз дрот калючы,*
*Праз штыкеты скаб*
*У самае сэрца.*

### КАМУ

*Каму вецер шуміць?*
*Каму хваля калышыцца?*
*Каму кветка цвіце?*
*Каму пах будзіць цішу?*
*Каму вецер з бярозай?*
*Каму вечар і месяца гонг?*
*Каму ў возеры зоры?*
*Каму будзіцца золак?*
*Каму росы ў імгле зіхацяць?*
*І нарэшце.*
*Каму б'е сэрца,*
*А каму звон?*

### ПЕРАД ІНФАРКТАМ

*У шалёным, вар'яцкім,*
*У паспешлівым бегу*
*Навакол сваёй восі.*
*Змарудзь крыху... Стань!*
*І прыцішы матор сэрца,*
*І дыханне да рытму*
*Хваль марскіх прыстасуй.*
*Прыстасуй свае вочы*
*Да аблокаў далёкіх,*
*Настаў вушы на цішу,*
*На гамонку лясоў,*
*На лугоў перагуды,*
*На крыніц перазвоны.*
*Тады нізка схіліся:*
*Над сцяблінкай травінкі,*
*Вітражом матыліным*
*Ці зярняткам пяску.*
*І зноў нізка схіліся*
*Над струной павучынай,*
*Над краплінкай расінкі.*
*Над вандроўнай мурашкай.*
*І яшчэ больш схіліся*
*Над сабой, якім быў,*
*Над сабой, якім ёсць,*
*Над сабой, якім будзеш.*
*І ўстань!*
*А дарослыя крылы*
*Пад вецер настаў.*

### НА ЗМЯРКАННІ ЛЯ ВАДАПОЮ

*Крысо пяску,*
*Адкінутае хваляй на расісты луг,*
*Замацоўвае негатывы*
*Капытоў.*
*Бярозы, што пасуць свой цень,*
*Спіхваюць яго з адхона*
*У вадапой.*
*Конь*
*Праз шкло вады*
*Цалуе сваю пысу*
*І з дна азёрнага глядзіць*
*На стэп нябёс,*
*На бледна-серабрыстую падкову,*
*Згубленую пегасам*
*У галопе.*
*Крывавае вока сонца,*
*Прыплюшчанае пагоркам,*
*Пазірае на распранутых дзяўчат,*
*Што ў золаце царкоўным*
*Сыходзяць*
*У цішыню вады,*
*У насцярожанасць аеру.*
*А я*
*З высокага акна гляджу*
*На ўсход неонаў гарадскіх,*
*Мо яны мяне*
*Да вадапою вернуць,*
*Каб мог я прагу ўталіць*
*Тым золатам.*

---

У ЛІТАРАТУРНЫХ АБ'ЯДНАННЯХ

# ТАЛЕНТЫ... КАМУ ІХ АДКРЫВАЦЬ?

АПОШНЯЯ серада кожнага месяца. У гэты дзень пасля сваёй асноўнай работы прыходзяць да нас у рэдакцыю члены літаратурнага аб'яднання «Вертыкаль». Здараецца, што ў немалой канферэнц-зале свабодных месц няма. Гэта радуе. Людзі прыходзяць, каб далучыцца да творчай работы ў літаратуры. Кожны з прысутных на занятках са сваім духоўным светам, са сваёй паэтычнай манерай. Уладзімір Быкоўскі — інжынер радыёзавода, Алесь Камароўскі — бібліятэчны работнік, Яўген Хвалей — супрацоўнік абласнога Дома народнай творчасці, Мікола Вяршынін, Тамара Пяркоўская — інжынеры трактарнага завода, Яўген Рубін — студэнт БДУ імя Леніна, Святлана Каробкіна — прадавец цэнтральнай мінскай кнігарні, Ала Валіева — дзесяцікласніца, Міхаіл Касцюковіч — выхавацель школы-інтэрната і іншыя. Некаторыя выдалі свае першыя зборнікі, але па-ранейшаму лічаць сябе членамі літаб'яднання.

Асноўная тэма такіх вечароў, як вядома, абмеркаванне твораў пачынаючых.

А паэзія — гэта тая ж рака, у якой уся свежасць, уся чысціня яе — у глыбіні. Зачэрпнуць вады з такой ракі нам дапамагае вопыт старэйшых пісьменнікаў.

На старонках газеты «Мінская праўда» заведзена новая рубрыка: «Для вас, пачынаючыя літаратары». Адкрыў яе паэт Генадзь Бураўкін. Ён расказаў аб сваёй працы над вершамі, аб рабоце літаратурнага аб'яднання, якое ён наведваў будучы пачаткоўцам. Пісьменнік у сваім артыкуле слушна папярэдзіў многіх аўтараў, каб яны не хапаліся адразу за некалькі жанраў — ад эпапеі да байкі. А хвароба такая, на жаль, існуе яшчэ ў маладых. Пакрытыкавалі за вершы, глядзіш, на наступных занятках чытае байкі.

Што такое паэзія і адкуль яна бярэ свае вытокі? На гэтых і іншых пытаннях затрымаўся ў сваім артыкуле рэдактар аддзела паэзіі часопіса «Нёман» Браніслаў Спрынчан. Ён пісаў, што паміж словамі добрага паэтычнага твора трэба, каб, як між электрычнымі батарэямі, прабягаў ток думкі, ток эмоцый, пачуццяў. Інакш кажучы, верш заклікан чуйна перадаваць пульс жыцця, пульс чалавечага сэрца, несці ў сабе праметэеўскі агонь грамадзянскасці. Няма сумнення, што парады старэйшага паэта дапамогуць маладым у іх нялёгкіх пошуках.

«Улаві шматгалоссе жыцця» — такой тэме прысвяціў сваё выступленне на старонках нашай газеты вядомы крытык Уладзімір Юрэвіч.

# ХАЙ ЖА КРАСУЮЦЬ!..



У маладыя гады ішоў я неяк з дзяўчынай па Вялікай Мікіцкай вуліцы. Непадалёк ад кансерваторыі быў антыкварны магазін. Мы спыніліся ля вітрыны, у якой былі выстаўлены старадаўнія рэчы розных эпох і народаў. Побач з кітайскімі бажкамі французская парцаляна, побач з брусельскімі карункамі найдзіўнейшыя ядвабныя індыйскія тканіны. А яшчэ ж вырабы са срэбра, золата, дамаскай сталі... Але ў цэнтры гэтае багатае і цікавае вітрыны стаяў адзін сціплы малюнак, які ўсім сваім зместам паўтараў спрадвечную ісціну: «Марната марнаты і ўсялякая марната»... На гэтым малюнку невядомы нам мастак намаляваў асенні сад, а на пярэднім плане—клумбу кветак, справа — частку тэрасы нейкага дома. Кветкі на клумбе адцвіталі, абсыпалі дол пялёсткамі. На некаторых кветках пялёсткі зіхацелі ў сонечных праменнях, на некаторых іх не засталося зусім. Перад клумбаю стаяла двое людзей у гадах—Ён і Яна. На ім апрануты шынель без пагонаў, на ёй старамоднае (на погляд сучаснікаў) паліто. На галаве — капялюшык з вуалеткай. Яны, так адчувалася, маўчалі, але гэтае маўчанне было вельмі красамоўным.

Памаўчалі і мы. Першым загаварыў я.

— Прыйдзе час... Будзем і мы з табой стаяць так увосень свайго жыцця перад такім кветнікам і моўчкі пазіраць на пялёсткі...

— Ой не! — адказала мне дзяўчына. — Я не дажыву да такога часу. Ды шчыра кажучы, не хацелася б быць удзельніцаю падобнага сумнага роздуму...

Мы пайшлі далей сваім шляхам.

Сустракалі мы вёсны, сустракалі восені і зімы. Сустракалі ў субтропіках пад пальмамі і кіпарысамі, сустракалі ў сібірскай тайзе, дзе лютуюць маразы.

А кветкі раслі і красавалі ўсюды і скрозь. А пялёсткі з тых кветак абляталі кожную восень. І багата іх было тых восеней, нямала было і пялёсткаў.

Сёлетняй восенню, шпацыруючы ў старадаўнім парку непадалёку ад Масквы, мы з жонкаю спыніліся ля адной клумбы, на якой былі ўсякія кветкі, але ўсе на адцвітанні. Пялёсткі ад іх ляжалі на клумбе, на сцяжынцы каля клумбы.

Нібы выбліск маланкі асвятліў мне той далёкі дзень, калі я з ёй разглядваў вітрыну антыкварнага магазіна. Я запытаўся:

— Табе нічога не нагадвае гэтая клумба?

— Не пытайся лепш!

— І Вялікая Мікіцкая, і вітрына, і малюнак?!.

— Я проста дзіўлюся такому падабенству, — адказала яна. — Думалася, што ніколі мы не дачакаем такога часу, аж на табе!.. Дачакалі... Стаім і разглядваем пялёсткі свайго жыцця...

Пялёсткі свайго жыцця!.. Адзін мудры англічанін сказаў: «У кожным сэрцы ёсць гразь, каменне і кветкі». У адным больш, пэўна, каменне, у другім — больш гразі. У трэцім — больш кветак. Але ж і гэтыя кветкі таксама ведаюць свае вёсны і свае восені. Але ж і гэтыя кветкі ведаюць свае красаванні і адцвітанні. Колькі-пялёсткаў з іх ападае на каменне, у гразь, марнуецца і зпікае там на векі вечныя. А на іх жа адначаваліся, адлюстроўваліся радасць і гора, прагныя жаданні і надзеі, летуценні дзяцінства і мары сталасці.

Шмат усякіх падзей, сустрэч, здарэнняў адначоўвалася на тых пялёстках.

А што калі ўзяць хоць невялікую частачку іх, падняць з таго каменне, адмыць, можа, нават гарачай слязой ад усяе твані, паказаць свайму добраму сябру: зірні, што можа стаць з пялёсткамі нашага жыцця, калі кветкі сілкуюцца ад нашай шчырасці, ад чыстага сумлення. Яны і пасля адцвітання красуюць і зіхацяць, як жывыя...

Дык хай жа і станецца так.

# Як старадаўнія рымскія пісьменнікі гасцявалі ў нашых Агародніках



Старадаўнія рымскія пісьменнікі Гарацый, Вяргілій, Авідзій і Апулей прыехалі аднойчы ў нашы Агароднікі, асяліліся ў хаце майго прадзеда і жылі там аж да першай імперыялістычнай вайны. У часе вайны яны пакінулі нашую сядзібу і больш у ёй не бывалі. А як гэта ўсё адбылося, мы зараз даведаемся дакладна.

Пачалося ўсё даўно, у першай палове дзевятнаццатага стагоддзя. Гэта значыць, больш чым за сто гадоў да нашага часу.

Аднойчы жніўеньскім адвячоркам мой прадзед Якуб, тады яшчэ зусім не стары чалавек, сядзеў на лавачцы перад сваёй хатай. Была субота. Усе тэрміновыя работы зроблены. Цяпер ён чакаў, калі ягоны сын Тодар прапаліць лазню. Жанчыны падрыхтавалі бялізну і ўсё, што патрабуецца для гэтага абраду. Раптам на вуліцы з'явіўся незнаёмы чалавек. Не падобны ён быў да селяніна, не падобны і да якога местачкоўца — ні з постаці, ні з вопраткі. Прыгледзеўшыся добра, — а падарожны падышоў бліжэй, — Якуб прызнаў яго: гэта быў вяльможны пан Юстын Палівода, адзін з самых багатых абшарнікаў нашае акругі. Ён ніколі, хіба ў дзяцінстве, не ездзіў на парцы коней. Самае меншае, чацвярык стаеннікаў запрагалі ў ягоную карэту. А пасля — фарэйтары, гайдукі... Адным словам, урачыстая працэсія, вясельны поезд нейкі, а не тое, каб выезд які. Зусім зразумела, што ніколі такі поезд не наведваўся на вясковыя дарогі. Толькі трактам або бойным гасцінцам праносіўся гэты пан са сваімі паязджанамі.

А цяпер — абшморганы, збянтэжаны, ідзе ён пехатой праз такую несамавітую вёсачку, як Агароднікі. Якуб здзівіўся. Ды як жа загаварыць з ім? Панам назваць — можа ён цяпер і не пан, суседам — каб не прыняў за кпіну якую. Урэшце дадумаўся Якуб:

— Чалавеча добры! Адпачні крыху, пасядзі.

— Дзякуй. Трэба ісці.

І тут госць не вытрымаў. Ён успёрся на край стала ды... заплакаў. Заплакаў самым сапраўдным чынам. Слёзы, як той казаў, што тыя журавіны каціліся па ягоным абліччы.

Якуб занепакоіўся:

— Можа хто цябе ў нас абразіў? Можа хто чым скрыўдзіў?

— Ды не, — кажа пан Юстын. — У мяне іншыя абразы, іншыя крыўды... Вы ж, пэўна, ведаеце, быў я вялікім магнатам, меў я незлічонае багацце. Не адзін маёнтак меў я, не адзін палац. І былі ў мяне накрыты сталы для гасцей што ўдзень, што ўночы. Хто толькі з паноў меў жаданне — мог прыехаць да мяне, дняваць і начаваць, піць ды есці, што ягоная душа прымае... А яшчэ — у карты гулялі. Калі я прайграваў — я сыпаў адразу золата. Калі мне прайгравалі — я не спаганяў доўгу. І так мае госці дарагія дапамаглі мне прапіць, праесці ды ў карты прагуляць палову ўсяго майго багацця. Тады мая жонка падала скаргу ў шляхецкі суд. Гэты суд прысудзіў — тую палову багацця, якая засталася, аддаць жонцы і на дзяцей, а мяне пазбавіць права на маёмасць. Я пакрыўдзіўся і сышоў ад сваёй сям'і, бо якое ж жыццё мне было цяпер пры ёй— нібы нейкаму кутніку? Але — дарма! — паду-

## Уладзімір ДУБОЎКА

# ПЯЛЁСТКІ



**Старэйшы наш пісьменнік, адзін з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры, Уладзімір Дубоўка жыве ў Маскве. Мы рэдка бачымся са сваім дарагім другам, асабліва цяпер, калі яму пайшло на восьмы дзесятак. Але калі выпадаюць такія сустрэчы — яны заўсёды радасныя і незабыўныя. Уладзімір Міхалаевіч — незвычайны субяседнік, заўсёды поўны маладога душэўнага хвалявання і прагнай цікаўнасці да ўсяго новага ў жыцці, у літаратуры, у мастацтве. Усё сваё жыццё ён — нястомны шукальнік. Гэтай асаблівасцю яго творчай натуры прасякнута ўся яго паэзія. У апошнія гады пісьменнік звярнуўся да прозы. Выйшлі яго аповесці «Жоўтая акацыя» і «Ганна Алелька», удзячна прынятыя юнымі чытачамі.**

**Нядаўна Уладзімір Міхалаевіч напісаў кнігу апавяданняў «Пялёсткі». Удала знойдзеная назва, мне здаецца, вызначае і самую задуму і творчую ідэю аўтара. Гэта аўтабіяграфічная кніга. Кожнае апавяданне ў ёй — пялёстак таго вялікага жыцця, праз выпрабаванні, радасці і адкрыцці якога прайшоў аўтар ад басаногага маленства да высокага мужнага поўдня свайго веку.**

**«Пялёсткі» яшчэ ў рукапісе. Мы з вамі — першыя чытачы асобных старонак гэтай кнігі, напэўна, самай дарагой і запаветнай для пісьменніка.**

**Ад усяе душы пажадаем ёй шчаслівага лёсу, а нашаму другу — радаснага творчага натхнення!**

**Васіль ВІТКА.**

— Вечарэе. Куды так далёка ісці трэба?

Пан Палівода падышоў з ніякаватым выглядам, сеў побач Якуба.

Пасядзелі. Пагаварылі пра надвор'е, даждыы, пра збожжа. А тут і сын Тодар прыйшоў клікаць бацьку ў лазню. Павітаўся з падарожным. Здзівіўся, бо таксама нібыта пазнаў яго.

Запрасілі ў лазню і падарожнага.

— Як я пайду! У мяне і перамены няма.

— От вялікі клопат! Зараз нашы кабеты падрыхтуюць. Ідзі, Тодар, скажы ім! — звярнуўся да сына Якуб.

Сабраліся. Пайшлі. Памыліся. Было ўсё — і пара, і бярозавыя венікі. Сам Якуб вязаў для сябе ядлоўцавыя венікі. «Лепш пара да цела прыстае, ні адзін драбочак не прападае». А распараныя ў варатку — яны зусім не колкія...

Пасля мыцця — свежая бялізна, ільняная, адмытая лугам, выбітая пранікам у пральні, выкачаная бярозавай качалкай ды перасушаная з сухім чаборам. Ад такой бялізны прыемны водар ледзь не на тыдзень трымаецца.

Прыйшоўшы ў хату — павячэралі як мае быць. Падарожнаму паслалі на лаве, на покуце.

На другі дзень госць, устаўшы і памыўшыся, пачаў адразу збірацца ісці.

Гаспадар яму кажа:

— Хіба так можна? Сёння нядзеля. Жанкі бліны ўчынілі. Паснедаем, а там пабачым.

Паснедалі.

— Цяпер трэба крыху адпачыць. Ды і абед неўзабаве будзе.

А там вячэра, а там трэба спаць класціся...

Так жыў пан Юстын у сялянскай хаце дзень, два, тры.

На чацвёртым дні ён зусім занепакоіўся:

— Ну што я буду ваш хлеб дарма есці. Каб я хоць што-небудзь умеў рабіць па гаспадарцы... Нічога не ўмею! Вось жа ў гэтым увесь мой смутак.

Якуб кажа:

— А божухна мілы! Хату пільнуеш, пакуль мы ў полі, вось і работа твая будзе. А калі адвячоркам пагаворым пра тое-сёе, дык і зусім добра, нам весялей будзе...

Нібыта супакоіўся пан Юстын. Прайшлі аж тры тыдні. На чацвёртым тыдні зноў узняўся: «Пайду ды пайду!».

А за гэты час Якуб больш дакладна даведаўся пра лёс пана Юстына. У кожным разе ён добра ведаў, што ісці яму няма куды. Вось жа ён і пачаў угаворваць госця пажыць яшчэ колькі часу.

маў я. — У мяне ж было столькі надзейных сяброў, я ж іх паіў, карміў, я ім з поўнай жмені золата сыпаў. Яны цяпер мяне да самай смерці пратрымаюць, як свайго найлепшага дабрадзея. Цяпер ужо не чацвярыком, а пехатою прыйшоў я да першага дружбака.

Толькі ўзышоў я на ганак, а ён лёкаю загадвае — «Адвядзі гэтага чалавека на кухню і скажы, каб там яго пакармілі...».

Угневаўся я, пайшоў да другога дружбака.

А той загадаў псоў з ланцугоў адвязаць ды выцкаваць мяне з панадворку...

Заходзіў я яшчэ да дваіх — і там не лепш.

І пайшоў я куды мае вочы глядзяць, на зламанне шыі... І тут сустрэўся з табой, селянінам... Вы мяне прынялі, як роднага, а я вас, сялян, за ўсё сваё жыццё за людзей ніколі не лічыў, я ж для вас і на сіні пазногаць нічога добрага не зрабіў. Я нават слова добрага вам, сялянам, ніколі не сказаў... Дык колькі слёз трэба мне выліць, каб змыць тую ўсю ганьбу маю.

Паслухаўшы ўважна гэтую споведзь пана Юстына, Якуб сказаў яму:

— Дык чаго ж табе, чалавеча, так непакоіцца і гараваць? Калі цябе зраклася сям'я і твае дружбакі, жыві ў нас. У нас, як сам бачыш, багацця вялікага няма, абыходзімся і без прысмакаў тых, але, тым часам, здаравейшым будзеш.

— Я гарую па тым, што не магу аддзякаваць вам. Хіба што адным: я дужа добра ведаю лацінскую мову. Я навучу твайго сына Тодара гэтай мове.

— Вучы! Што чалавек ні навучыцца — за плячыма не трэба насіць, а карысць нейкая будзе...

І вось папрасіў ён са свайго колішняга маёнтку кнігі. Аддалі. Пачаў Якубаў сын Тодар, у далейшым — мой дзед, вывучаць у вольныя хвіліны латынь. Вывучыў яе так, што ў арыгінале зусім свабодна чытаў творы Авідзія, Гарацыя, Вяргілія, Апулея. Вось тады і пасяліліся гэтыя выдатныя рымскія пісьменнікі ў нашых Агародніках.

Сваім аднавяскоўцам час ад часу мой дзед Тодарператлумачваў цэлыя раздзелы з прачытаных твораў. Асабліва падабаліся нашым землякам Вяргіліевы «Георгікі». Пакуль быў жывы пан Юстын, ён удзяляў у тых чытаннях, а калі памёр — пахавалі яго на каталіцкіх могілках. На крыж, апрача Езуса, прыбілі дзве дошчачкі, маляваныя пад выгляд кніг. На адной напісалі «Ovidius», а на другой «Vergilius». Так са сваімі самымі надзейнымі дружбакамі пайшоў стары Палівода ў апошняе падарожжа...

# СМЕРЦЬ МАЙГО ПРАДЗЕДА ЯКУБА

Пражыўшы сто тры гады на свеце, прадзед мой Якуб раптоўна асляп. Дактароў тады ў нас не было, даць добрага зелля або зрабіць аперацыю — не было каму. Паклікалі з суседняй вёскі нейкую бабульку-знахарку. Яна паглядзела, памацала ягоныя вейкі сваімі заскарузлымі ад працы ды таксама старымі пальцамі і запыталася:

— Дык ты нічога не бачыш, Якубе?

— Нічога.

— І мяне не бачыш?

— І цябе не бачу.

— І сонейка яснага не бачыш?

— Адчуваю, як яно свеціць, як грэе, а бачыць — нічагутанькі не бачу...

— Ты ж не стукнуў нічым у вочы, яны ў цябе не выбалелі, ніякай хваробы звонку на іх няма. Значыцца, у іх набралася цёмная вада. Квіта. Ніякай зёлкай, ніякай замовай памагчы нельга.

— Дзякую і на тым, на тваёй спагадзе і на добрым слове.

Пасля таго прадзед папрасіў свайго сына Тодара, каб ён прапаліў лазню. Хоць яе палілі два дні назад, але сын, ні слова не сказаўшы бацьку, зрабіў усё паводле ягонага загаду. Папрасіў прадзед сына:

— Звадзі ты мяне, сыночак мой адзіны, у лазню і памый ты мяне ў апошні раз...

Сын ледзь не самлеў:

— Татачка, родны, што ты такое кажаш? Аж слухаць страшна...

— А ты не страшся, сынок. Я памру праз малы час. Жыць дармажэрцам я не буду, а працаваць больш — не магу...

Дзядуля зноў яму:

— Тата, зямлі ў нас валока. Я ў цябе — адзін. Усё, што ў нас ёсць, — запрацавана тваімі рукамі, усё — тваё. Нават каб ты яшчэ такое жыццё пражыў не працуючы, табе ўсяго хопіць. Апрача таго, ты ж можаш, калі табе схочацца, выйсці памаленьку з хаты і кійком па плоце пастукаць, курэй папужаць, дык і то будзе работа не малая. Ды ці мала чаго ты здолееш рабіць! А самае галоўнае, што ты будзеш мне добрыя парады даваць, а гэта — даражэй усякай работы...

Заладзіў прадзед адно: «Гэта ўсё не тое, гэта ўсё не для мяне, не хачу дармажэрцам на свеце жыць...».

Памыўся ў лазні, апрануў чыстую кужэльную кашулю, нагавіцы, лёг на свой ложак і не стаў ні піць, ні есці. Як яго прасілі, як яго малілі — кленчылі перад ім, не ўзяў ні кроплі вады, ні крошачкі хлеба. На шостыя суткі стары Якуб аддаў богу душу. Але, як растлумачыў манькаўскі поп, «бог душу старога Якуба не прыняў ні ў рай, ні ў пекла не накіраваў, бо паводле царкоўнага закона — ён самагубца». А з гэтае прычыны поп не дазволіў хаваць нашага прадзеда на Манькаўскіх могілках, пры царкве. Быў ён пахаваны ў канцы вёскі Агароднікі, пры выездзе з вёскі завулкам на так званае Пралле, куды бабы насілі і вазілі праць бялізну. Над ягонай магілкай стаяў высокі дубовы крыж. На гэтым месцы былі калісьці Агародніцкія старыя могілкі. Людзі казалі, што стары Якуб не мае сабе прытулку на тым свеце і затым ходзіць па зямлі, але, зразумела, нікому ніякай крыўды не робіць па смерці, як не рабіў яе нікому і пры жыцці. Казалі яшчэ мне, што быў ён дужа мудры, ведаў назву кожнай зоркі на небе і мог вызначыць час, у які трэба сеяць тое ці іншае збожжа...

# ПЕРШАЕ ЗАЛЯЦАННЕ



Рыхтуючы нас на вясковых настаўнікаў, якія павінны былі ствараць у вёсках асяродкі культуры ў дарэвалюцыйны час, нашы педагогі імкнуліся выхоўваць добра нас саміх, прышчапіць нам усе добрыя якасці, уласцівыя сапраўднаму культурнаму чалавеку. Кожны настаўнік пры вывучэнні свайго прадмета, а выкладчык літаратуры пры разглядзе мастацкіх твораў, звярталі нашу ўвагу на ўсе станоўчыя і адмоўныя рысы літаратурных ці гістарычных герояў, якія маглі б быць карыснымі і каштоўнымі пры фарміраванні нашых уласных характараў.

Асабліва стараўся дырэктар семінарыі. Чалавек адукаваны, разважлівы, ён часта выказваў жаль з прычыны таго, што мы, не маючы ўласнага памяшкання, не можам наладжваць літаратурна-мастацкіх вечароў, на якія б маглі запрасіць хлопцаў і дзяўчат з іншых школ. Шкадаваў і аб тым, што мы не можам праз гэту ж прычыну навучыцца правільна і прыгожа танцаваць класічныя танцы. Некалькі разоў на сваіх лекцыях па гісторыі педагогікі ён казаў нам, што мы не павінны трымацца дзікунамі ў адносінах да дзяўчат-гімназістак, рэкамендаваў нам знаёміцца з імі, праводзіць іх у школу, на канцэрты і г. д.

І вось аднойчы, хоць у чужым памяшканні, быў арганізаваны вечар нашай настаўніцкай семінарыяй. Праграма была бадай што звычайная: дэкламацыя вершаў, спевы, гульні ў розныя фанты, танцы. Нам дырэктар загадзя наказаў, каб мы даглядалі гасцей, стваралі сваім удзелам добры настрой і, самае галоўнае, каб пасля вечара абавязкова праводзілі дзяўчат да іхніх кватэр. На гэтым вечары я і пазнаёміўся з адной гімназісткай — Ленай Багдановіч, бацькі якой жылі ў самым Невелі і мелі ўласную хатку блізу Віцебскага вакзала. Было ёй гадоў 14—15, бадай, мая равесніца. Была яна даволі прыгожая, з карымі вачыма, з вялікімі русявымі косамі, якія ў тыя гады былі моднымі. Твар яе быў тыпова беларускі: з тонкім носікам, злёгку хударлявы, з натуральным румянцам. Адным словам — звычайная дзяўчына. Калі канчаўся вечар, я папрасіў у сваёй спадабанкі дазволу праводзіць яе дадому. Яна дазволіла, крыху падумаўшы: «А ці зручна будзе табе? Табе ж трэба зусім у адваротны бок...». Памогшы ёй апрануць паліто, я сам хутка апрануў свой шынель, павязаў на шыі башлык (без яго мы не мелі права нідзе з'яўляцца ў зімовы перыяд), усклаў сваю шапку, і мы памаленьку пайшлі. Калі ісці сярэдняю хадою, да дома маёй спадабанкі было не больш васьмі хвілін. Мы неяк ухітрыліся ісці больш паўгадзіны. Я, зразумела, вёў яе «пад ручку». Размаўлялі мы пра ўсё на свеце: пра сваіх настаўнікаў, сяброў, пра вывучэнне навук. Нават закранулі і тэму кахання, але ў літаратурным плане. Падыходзячы да яе хаты, мы ўжо так зблізілі свае галовы, што засталося зусім, зусім недалёка да пацалункаў. Я, стаўшы на іхнім ганку, наважыўся быў дакрануцца сваімі вуснамі да яе такіх слаўных, прыгожых вуснаачкаў. І ў гэты самы момант нейкая цёмная хмара нечакана закрыла ад мяне і маю спадабанку, і ясны месяц, і зорнае неба: на маю галаву апусцілася «чудище обло, стозевно и лаяй», абдало мяне попелам, укалола мільёнам іголак і аглушыла, як гром, словамі:

— Ах вы, саплівікі, абнімацца? Цалавацца? Заляцацца? Вось табе — раз! (па мне), вось табе — два! (па маёй спадабанцы), вось табе — раз! (зноў па мне), вось табе...

Кожнае слова сваёй энергічнай прамовы яно падмацоўвала не менш энергічным ударам памяла, звязанага, відаць, для нейчай хлебапякарскай печы.

Каб пазбавіць сваю мілую Леначку ад новых удараў (бо карніца ўсё адлічвала «вось табе два»), я адскочыў ад ганка. Матка Лены (аказваецца, гэта была менавіта яна) дадала тады:

— Я скажу твайму дырэктару, што, замест таго каб урокі вучыць, ты да дзяўчат цягаешся...

Стоячы на даволі пачцівай адлегласці ад яе і страсаючы з сябе, наколькі магчыма, попел ад памяла, я сціпла адказаў:

— Дырэктар нам і загадаў, каб мы ўночы не адпусцілі дзяўчат адных, але абавязкова праводзілі да самага дому. Я ж у ваш дом не ўваходзіў.

На гэта яна, махнуўшы памялом так, што яно зноў закрыла ад мяне ясны месяц, сказала:

— Не будзе мала і вашаму дырэктару, калі так...

Усё ж з Ленай мы пасля гэтага сустракаліся, праўда — выпадкова. Яна пад сакрэтам мне сказала: «А ведаеш, ты маёй маме спадабаўся. Мне думаецца, што ты можаш смела прыйсці да нас у госці».

Гэта для мяне было вельмі нечакана, але рызыкаваць у другі раз я не адважыўся. Так мы і разышліся з ёй у розныя бакі...

# ПАЖАР



Частку нашых палёў апаясвала рака. Паплавы на абодвух берагах гэтае ракі таксама належалі сялянам нашай вёскі. А за паплавамі на левым баку — панскі лес. Для вёскі гэта было выгадна, а панам дужа не падабалася, бо і сенажаці на левым баку былі добрыя і праз іх нашым людзям было лацвей «гаспадарыць» у лесе.

Вось аднойчы панскі адміністратар адшукаў нейкія старадаўнія паперы, якімі пачаў даводзіць, што ўвесь поплаў на левым беразе ракі з'яўляецца князевай уласнасцю, а нам нібыта належыць багністае балота «Залатуха», якое знаходзіцца на адлегласці трох вёрст ад нашай вясковай зямлі, у сярэдзіне панскага лесу.

Пра гэта ўсё абвясцілі нашай грамадзе вясной 1905 года і папярэдзілі, каб ніхто нават не патыкаўся на паплавы.

Сяляне страшэнна абурыліся, сабралі грошай і паслалі сваіх прадстаўнікоў у Вільню да адваката.

Адвакат азнаёміўся ўважна з усёй справай і сказаў:

— Браточкі! Праўда — ваша. Тым не менш, я даю вам раду скарыцца, узяць тую гнілую Залатуху, якую вам даюць, і адступіцца ад сваіх паплавоў...

— Чаму адступіцца? — абурыліся прадстаўнікі. — Мы будзем судзіцца! Закон вышэй князя!

Але адвакат стаяў на сваім.

— Увесь царскі закон, — сказаў ён, — стане за князя. Хто такі ваш князь? Шталмейстар царскага двара, у нядаўнім — царскі міністр унутраных спраў. Калі вам прысудзіць адзін суд, нават два,— князь падасць скаргу ў сенат, а сенатары вырашаць справу абавязкова на князеву карысць. У гэтым я перакананы. Што ж будзе ў вас? Прасудзіце грошы і змушаны будзеце ўзяць тое ж самае балота. Што да мяне, дык я ўзяўся б весці вашу справу без ніякае платы, каб хоць маленькая надзея была на поспех...

Вярнуўшыся ў вёску, пасланцы слова ў слова так і сказалі людзям. А тым часам надышла пара і сена касіць. Настроілі косы, і ўся вёска выйшла на левы бок ракі. А паны панаймалі касцоў у суседніх вёсках, далі ім на грыўню больш, чым звычайна, і таксама паслалі на той жа поплаў.

Нашы косяць, а тыя, нанятыя, стаяць і глядзяць. Панскія прыганятыя конна гайсаюць ды на сваіх наймітаў: «Што вы стаіцё? Ганіце іх адсюль! Мы вас навошта наймалі?».

Адзін з нанятых за ўсіх адказаў:

— Вы нас наймалі свае лугі касіць, а прывялі нас на сялянскія. Дык мы і паможам сваім братам касіць, каб час не марнаваўся.

Пасталі побач з нашымі людзьмі ды, як той казаў, адным махам увесь вялізны поплаў і скасілі. А надвор'е было добрае! Сена сохла хутка. На другі дзень па абедзе і стажкі склалі. На трэці дзень пазапрагалі коні і выехалі вазіць сена ў свае пуні.

Калі глянулі, аж цэлы эскадрон царскіх карнікаў прыкаціў. Сагналі нашых вяскоўцаў у адзін круг ды бізунамі, ды бізунамі. А ў бізуны дрот уплецены, а на канцах — свінец зашыты. Так секлі, так лупцавалі, што крывавыя пыркі ляцелі. Енк, гвалт узняўся. Тут не тое, што левы бок ракі, але і правы гатовы былі аддаць князю.

Нацешыўшыся да сытага, казакі загадалі класці сена на вазы і везці яго ў панскія пуні.

Да самага цямна вазілі. Усё сена адвезлі. Панскі адміністратар аб'ехаў увесь поплаў ды прымусіў падгрэбсці, дзе былі пазаставаліся маленькія кіткі якія. Тады толькі адпусцілі нашых вяскоўцаў дадому. Так і выйшла, што дарма скасілі, дарма пасушылі і таксама дарма адвезлі пану ў пуню...

Эскадрон карнікаў паехаў з вясёлай песняй у маёнтак. Там такім «героям» выкацілі некалькі бочак гарэлкі (бровар у князя свой!), а на закуску і кілбасы, і вяндліна... Адным словам, баль такі закацілі, што некаторыя, упіўшыся, ракам па аселіцы лазілі... Песні, гойканне да ночы былі чутны.

І вось апаўночы ўзняўся ў маёнтку пажар. Велізарны пажар. Занялося адразу ў дваццаці месцах. Гарэлі аборы, стайні, вазоўні, гумны, свірны, пуні. За вярсту ветрам адносіла дошкі, абнятыя полымем.

Ад вялікага маёнтку, можна сказаць гарадка, толькі палац застаўся ды некалькі камяніц. А ўсе драўляныя будынкі пагарэлі. Паабпякаліся многія карнікі, у некаторых пагарэла вопратка. Ад'язджалі яны з маёнтку без песень, накшталт напалеонаўскага войска з Масквы: хто ў цывільнай вопратцы, хто з падвязанымі скіўіцамі...

Пасля наехалі жандары, следчыя, пачаліся допыты, шукалі падпальшчыкаў. Але людзі ў адзін голас адказалі: карнікі напіліся, параскладалі ўсюды агні, пяклі на ражэньчыках сала, вось яны і падпалілі...

Так скончыўся баль. Прыйшлося ўсе будынкі будаваць нанава. А нам, сялянам, дасталася ўсё ж гнілая Залатуха замест нашых векавечных паплавоў...

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі (г. Бабруйск) ажыццявіў пастаноўку п'есы румынскіх драматургаў А. Бурсана і Г. Панко «Нікнік» («Дон-Кіхот з праектнага бюро»). Рэжысёр спектакля Г. Баравік, мастак І. Чумакоў. У спектаклі заняты артысты А. Бендава (Ліяна), Б. Баеў (Тудор Мэрэу), А. Жук (Мікалай Удра), А. Мароз (Сорын Выусан), В. Бармін (Дан Брыяру) і інш.

На здымку (злева направа)—артысты В. Бармін і Б. Баеў.

Фота Ю. ЛЫСКОВА.



НАШ СУЧАСНІК

# „ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ВАНЯ!“

Пісьмо прыйшло ў рэдакцыю ад Ніны Міхайлаўны Мітрошынай з далёкага сяла Тоцкае Арэнбургскай вобласці.

*«Дарагія таварышы! Звяртаюся да вас з вялікай просьбай — дапамажыце адшукаць Івана Фёдаравіча Шчэрбу, які жыве ў вас у Мінску, і перашліце яму наша пісьмо. Ён афіцэр—сапёр, некалькі год таму падарваўся на міне і аслеп. Вельмі прашу дапамагчы знайсці яго. Справа вельмі важная. З павагай, Мітрошына».*

Забягаючы наперад, хочацца паведаміць, што Івана Фёдаравіча мы адшукалі і ён ветліва дазволіў апублікаваць другое пісьмо Мітрошынай, адрасаванае яму асабіста.

*«Шаноўны Іван Фёдаравіч!*

*Звяртаюся да Вас з вялікай просьбай і надзеяй. Я ведаю, якая страшная бяда здарылася з Вамі. Днямі да нас у бальніцу, дзе я працую медыцынскай сястрою, прывезлі цяжка параненага хлопца Толіка Дзікава. Яму 20 год. Ён трапіў у аварыю і аслеп. Цяпер, здаецца, пачаў ачуньваць. Ён ужо размаўляе, але пра сваё няшчасце — слепату — не ведае. З вялікім хваляваннем чакаем мы таго моманту, калі яму здымуць з вачэй павязку, і ён даведаецца пра ўсё. Якімі словамі суцешыць яго, як вярнуць да жыцця?!*

*Я прашу Вас, дарагі Іван Фёдаравіч, напішыце яму, калі можаце, некалькі слоў. Толькі Вы, як мне здаецца, зможаце знайсці такія словы. Раскажыце яму аб сабе, аб тым, што можна жыць цікавым, паўнакроўным жыццём, прыносіць людзям шчасце нават страціўшы зрок. Вы, я ведаю, мужны чалавек. Дапамажыце і яму стаць мужным, падкажыце, як далей жыць. Анатолю ж, як я ўжо сказала, толькі 20 год. Ваша слова можа для яго стаць галоўным у жыцці. Вельмі Вас прашу.*

*Цісну моцна руку, з павагай*

*Мітрошына».*

...Івана Фёдаравіча я знайшоў у цэнтральным праўленні Беларускага таварыства сляпых, дзе ён працуе загадчыкам аддзела арганізацыйна-масавай работы.

Ішоў ліпень. Дзень быў спякотны, сонечны. У кабінеце сядзела некалькі чалавек у цёмных, супрацьсонечных акулярах.

— Вам Шчэрбу?

З-за стала ўстаў высокі, шыракаплечы, падцягнуты мужчына сярэдніх год. Мы селі ўбаку, каб не перашкаджаць іншым працаваць, і гутарка наша зацягнулася на некалькі гадзін. А на наступны дзень да позняга вечара заседзеліся ў яго дома. Іван Фёдаравіч пазнаёміў мяне з сям'ёй — дзесяцікласнікам Сашам і студэнткай політэхнічнага інстытута, Ленінскай стыпендыяткай Ленačкай.

...У верасні 1963 года ўрад Алжыра звярнуўся да Савецкага ўрада з просьбай прыслаць вопытных сапёраў размініраваць «палосы смерці», якія працягнуліся больш чым на тысячу кіламетраў. Здавалася, што ўся зямля начынена снарадамі, яна мёртвая і недаступная. Кожны дзень то тут, то там падрываліся людзі. І вось невялікая група добраахвотнікаў-смельчакоў — усяго 12 афіцэраў— згадзілася дапамагчы алжырскім сялянам. Сярод іх быў і беларус Іван Шчэрба.

— Разам з таварышамі апынуўся я ў Аране, — расказвае Іван Фёдаравіч. — Выйшлі мы з самалёта і здзівіліся — нібыта на перадавую трапілі. Вакол аэрадрома — калючы дрот, злева ад нас — укрыццё, мяхі з пяском... Аднекуль здалёк даносіцца страляніна. На сцяне абгарэлага дома чорнай фарбай размашыста напісана: «ОАС»... Гэтыя тры літары можна было бачыць і на асфальце, і на платах...

Іван Фёдаравіч крануў акуляры, закурыў.

— Неяк раніцай зайшлі да фелаха напіцца. Даў ён мне вады, а яна цёплая, мутная... Вось д'ябал, думаю. Побач калодзеж, набяру свежай вадзіцы. Фелах схапіў мяне за руку, кажа, што ўсе калодзежы ў дуары, у сяле значыць, замініраваны. І праўда, каля калодзежу аказалася міна. Мы знялі яе і пайшлі. Фелах прыціснуў руку да сэрца — такі ў іх звычай, удзячнасць нібы проста з сэрца дастае...

300 тысяч мін абясшкодзілі савецкія воіны. Але аднойчы іх камандзір капітан Іван Фёдаравіч Шчэрба памыліўся. А сапёр, як вядома, памыляецца адзін раз...

Цяжка параненага капітана адвезлі ў бліжэйшы шпіталь, які знаходзіўся ў горадзе Тлемсене. Абслугоўвалі шпіталь балгарскія ўрачы і сёстры, прысланыя з Сафіі на дапамогу алжырцам. Вось што напісала аб тым выпадку адна з іх — медсястра Ніна Галіцына.

*«Дзень Савецкай Арміі мы святкавалі ў нашых рускіх сяброў у Марніі. Іван Фёдаравіч быў душой вечара. Сачыў, каб на сталах усяго было ўдосталь, запяваў песні, наладжваў танцы. У нашай групе не засталося чалавека, які б не павёз з сабою яго вобраз. І калі прыйшла вестка аб няшчасці, якое напаткала Іванку, усе мы сабраліся ў шпіталі.*

*Прывезлі яго ў вельмі цяжкім стане, з забінтаваным тварам і рукою.*

*У аперацыйнай параненага агледзеў хірург прафесар Райнаў і траўматолаг доктар Герчаў. Яны ўступілі месца ўрачу-афтальмолагу Лукаву. Калі знялі павязкі з твару Івана Фёдаравіча, мы ўбачылі жудасную карціну. Увесь твар абпалены, вусны ўспухлыя і крыху вывернутыя. Але не гэта было страшным, страшныя былі вочы, больш правільна месцы, дзе яны павінны знаходзіцца.*

*Мы з урачом Лукавым вылілі некалькі літраў фізіялагічнага раствору, каб хаця крыху ачысціць вачніцы, дзе была крывавая «крошка». Доктар сшываў шматок за шматком.*

*...Шчэрба часам стагнаў, гаварыў незразумелыя словы, але наркоз яму даваць было нельга.*

*За дзвярыма стаялі яго таварышы. Яны перажывалі вельмі цяжка, некаторыя не маглі стрымаць слёз.*

*Працавалі тут, у шпіталі, вельмі добрыя людзі, якія прайшлі праз суровую школу партызанскага жыцця. Даглядалі Івана Фёдаравіча пазменна медсёстры Радка Шабанава, Іванка Герчава, Віргіння Янчава, Лілія Ніколава. Ежу Івану Фёдаравічу мы гатавалі па чарзе, не хацелася браць для яго з агульнага шпітальнага катла.*

*У першыя дні і ночы ён вельмі нерваваўся, спрабаваў сарваць павязкі, хацеў праверыць, бачыць ён ці не. Пазней ён стаў больш спакойным. Мне было вельмі цяжка дзяжурыць пры ім. Ён ведаў, што я добра размаўляю па-руску, і задаваў мне розныя пытанні. Усё, вядома, зводзілася да яго лёсу. Я не магла, як іншыя, адгаворвацца, што не разумею...*

*Не было дня, каб хто-небудзь не прыязджаў з Марніі наведаць Іванку. Пра тэлефон і гаварыць няма чаго. Па некалькі разоў у дзень даводзілася перадаваць паведамленні аб стане Івана Фёдаравіча. Наведвалі яго і алжырцы, якія працавалі ў Марніі. Прыходзілі з Тлемсенскага гарсавета і так званага «Бюро палітык». Мне даводзілася заўсёды прысутнічаць пры гэтых візітах, таму што трэба было перакладаць з рускай мовы на французскую.*

*Алжырскія таварышы гаварылі, што яны ніколі не забудуць дапамогу, якую аказваюць ім Савецкая краіна і іншыя сацыялістычныя краіны, што кроў, якую праліў Іван, назаўсёды змацуе дружбу народаў. Паводле рашэння гарсавета, у Марніі адна з вуліц названа імем Івана Шчэрбы...».*

Як гэта сімвалічна — у невялікім алжырскім гарадку Марніі вуліца названа імем савецкага воіна, беларуса Івана Шчэрбы. А за яго здароўе нямаведама колькі дзён і начэй змагаліся балгарскія медыкі...

У 1941 годзе ў баях пад Варшавай, у баях за свабоду Польшчы загінуў бацька Івана Фёдаравіча, у 1945 годзе—пад Кенігсбергам, за тое, каб пазбавіць нямецкі народ ад праклятага фашызму, аддаў сваё маладое жыццё брат. У 1963 годзе, вызваляючы алжырскую зямлю ад праклятай спадчыны імперыялізму, ён сам быў цяжка паранены.

...Пасля вяртання з Алжыра Шчэрба знаходзіўся на лячэнні ў Маскве, у шпіталі імя Бурдэнкі. Усе намаганні ўрачоў, усе аперацыі, на жаль, поспеху не прынеслі. Вельмі складаная аперацыя ў інстытуце імя Філатава — таксама.

Надышоў час, калі Іван Фёдаравіч пачуў страшнае:

— Святло для вас назаўсёды згасла.

— Дзе ж вы ўзялі сілы, каб усё гэта вытрымаць, каб выстаяць? — пытаюся я.

Іван Фёдаравіч пачынае хадзіць па пакоі, тонкімі нервовымі пальцамі прыгладжвае валасы.

— У кожнага Марэсьева ёсць свой Вераб'ёў. У мяне іх аказалася два — жонка мая Марыя і Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Гаргалюк, якога я сустрэў у адэскім санаторыі і які страціў зрок у паветраным бai на Курскай дузе яшчэ ў 1942 годзе.

..На ражку стала ў рамачцы з чорнай стужкай стаіць партрэт маладой жанчыны з вялікімі ласкавымі вачыма, добрым тварам. У пакой уваходзіць сын Саша. Прыглядаюся — ён вельмі падобны на маці. Іван Фёдаравіч узяў у рукі партрэт, патрымаў якую секунду-дзве.

— Пералёт з Алжыра на Радзіму быў для мяне вельмі цяжкім. Ляцелі 12 гадзін. У прыёмным аддзяленні шпіталя пачалі запісваць адрас. Пытаюцца:

— Сям'я ведае?

— Не.

— Паведаміць?..

— Пакуль, — кажу, — не трэба.

Не хацелася мне, каб Марыя ўбачыла мяне такім. Ды я і не ведаў яшчэ чым усё гэта скончыцца. Левае вока адчувала святло, бачыў нават, што сонца свеціць праз павязку... Паступова і гэта знікла.

І вось першая сустрэча з жонкай у шпіталі. Спачатку, праўда, я размаўляў з ёй па тэлефоне. Сказаў, што знаходжуся ў Маскве.

— Ваня, доўга ты будзеш там? — спытала яна. — Калі дамоў прыедзеш?

— Прыйдзецца крыху затрымацца, — адказаў я. — А ў самога, чую, ногі падкошваюцца.

— Чаму?

— Шэраг прычын... Маруся. Я... у шпіталі.

Яна на імгненне змоўкла. Я нават чуў яе цяжкое дыханне. Маруся заўсёды казала, што для ўсіх людзей вайна даўно скончылася, а для нас яна працягваецца заўсёды, штодзённа, штогадзінна. Сапёр увесь час, як на вайне. То ў Растоўскай вобласці аэрадром разміравалі, то ў Закарпацці бульдозер катлаван рыў і на бомбу наскочыў. Бомбішча была там вагою ў дзвесце кілаграмаў, выбухне — гузіка не знойдзеш...

Якая ў цябе рана, Ваня? — чую ў тэлефоннай трубцы.

— Крыху рука пабіта.

— А астатняе?

— Астатняе ў парадку... Як дзеці?

У той дзень, калі яна павінна была прыехаць, усё наша аддзяленне, пачынаючы ад начальніка і заканчваючы санітаркай, хваляваліся: як пройдзе сустрэча? Побач села медсястра з медыкаментамі — а раптам каму-небудзь стане нядобра.

На вакзале жонку сустрэў начальнік аддзялення, ён і сказаў ёй.

— У Вані дрэнна з вачыма, не бачыць...

Прыехала Марыя з шасцігадовым Сашам. Я сяджу ў пакоі адпачынку, дзе павінна была адбыцца сустрэча. Павязак ужо няма, на вачах — цёмныя акуляры, прыслухоўваюся да кожнага кроку. Чую ў калідоры голас сынка:

— Дзе мой тата?

Пакуль Маруся ішла па калідоры, ён ужо ў мяне на каленях сядзіць.

— Добры дзень, татачка!

Пацалаваліся. А Сашка мой чуў размову па вакзале, што я не бачу, і пытаецца:

— Тата, ты мяне бачыш?

— Бачу, сынок, бачу...

— А як?

— Сэрцам бачу.

У пакой увайшла Маруся, хацеў сказаць ёй, маўляў, не плач, не хвалюйся, ды яна мяне апярэдзіла.

— Не хвалюйся, Ваня! Галоўнае, што ты жывы... Гэта—галоўнае.

Ну вось і ўсё. Селі побач, пачалі гаварыць аб сямейных справах. Медсястра непрыкметна выйшла з пакою —убачыла, што яе дапамога непатрэбна.

Калі пачалі збірацца дамоў, да Марыі падышоў стары франтавік, расцалаваў яе.

— Дзякуй вам, — сказаў ён і пальцам выцер набеглую слязу. — Вы сапраўдная жонка... малайчына!

Ёй тады было 36 год. Ні ў мяне, ні ў яе няма бацькоў — загінулі на вайне..

— Як вы ходзіце без палачкі? — спытаўся я.

— Усё гэта намаганні жонкі. Спачатку без палачкі не мог. Жыву на другім паверсе. Прыступкі... Яна і гаворыць мне аднойчы:

— Слухай, няёмка, такі мужчына, а ідзеш з палачкай, як стары.

Паехалі адпачываць у Друскенікі — кінуў палку ў Нёман. Жонка ў мяне тады сама цяжка хварэла, а ўсё непакоілася за мяне...

...Паехалі мы ў Адэсу, у інстытут імя Філатава. Памятаю, абход рабіў начальнік шпіталю. Глядзіць на мяне —я чыста паголены.

— Іван Фёдаравіч, добры дзень!

— Добры дзень!

— Чым вы голіцеся?

Адно неасцярожнае слова, а я зразумеў адразу...

— Небяспечнай брытвай, — кажу. — Але вы не хвалюйцеся. Столькі людзей так доўга змагаліся за маё жыццё не для таго, каб я так танна яго аддаў.



**Іван Фёдаравіч Шчэрба з сям'ёй пасля выхаду са шпіталя.**

У тым інстытуце прафесар Надзея Аляксандраўна Пучкоўская шчыра сказала мне:

— На вялікі жаль, пакуль што мы працуем над такімі аперацыямі, якія вам не патрабуюцца. Ведаеце, ні адзін хірург не возьме ў рукі скальпель, пакуль не будзе ўпэўнены ў паспяховым выніку. Будзем чакаць, навука развіваецца хутка. Прыязджайце праз паўгодзіка... Паглядзім...

Я зразумеў, што мяне спрабуюць супакоіць. Балюча было чуць гэтыя словы. Я амаль перастаў размаўляць.

Аднойчы ў шкляныя дзверы веранды пастукалі. Жонка адчыніла і я пачуў густы бас:

— Можна да Івана?.. — і потым: — Ты чаго нос павесіў! Як думаеш далей жыць, сапёр? Сляпы? Ну і што? Сляпыя таксама жывуць. Я вось дваццаць год белы свет не бачу.

Так мы пазнаёміліся з Героем Савецкага Саюза Аляксандрам Іванавічам Гаргалюком.

— У штопар, браце, цябе зацягнула, — працягваў, між тым, ён, — трэба выходзіць. Інакш — дашчэнту разаб'е. Трэба жыць! Вось табе кнігі, чытаць па Брайлю вучыся. Заканчвай тэхнікум, інстытут, на работу ўладкуйся. Ведаў бы, якімі справамі мы ў таварыстве сляпых варочаем...

Іван Фёдаравіч працягнуў мне чарнавік пісьма:

*«...Дарагі Аляксандр Іванавіч, цяпер аб галоўным: працую я на пасадзе слесара-зборшчыка, ужо атрымаў першую зарплату. У Цэнтральным праўленні таварыства сляпых прапануюць мне розныя кіруючыя пасады, але пакуль я сам не адчую, што такое работа, не даведаюся, чым і як жыве рабочы, я кіраваць не змагу, таму што ў маім становішчы вельмі лёгка памыліцца, аступіцца, пайсці па няправільным шляху. Камандзірам у арміі мне лягчэй было стаць — перад гэтым шэсць гадоў жыў жыццём салдата. Думаю, што вы адобрыце маё рашэнне.*

*Ваш Іван Шчэрба».*

І яшчэ адно пісьмо.

*«Ведаеш, Ваня, кожны дзень я здароўкаюся з табою, калі прыходжу ў часць. Каля штаба — твой партрэт, маслам напісаны. Дык вось, іду я на службу і, перш чым зайсці да сябе ў роту, кажу: «Добры дзень, Ваня!»*

*Мікалай Расолька».*

...Іван Фёдаравіч праводзіў мяне на вуліцу. Крыху пастаяў, і падаючы цвёрдую далонь, усміхнуўся:

— Вось так мы і жывём.

І потым сур'ёзна:

— Жывём і змагаемся

**Яўген МАЗО.**

